На белорусском языке

*Леонид Антонович Царенков*

ФРАНЦИСК СКОРИНА И ЕГО ВРЕМЯ

Издательство Белорусского государственного
университета им. В. И. Ленина
Минск, ул. Кирова, 24.

Рэдактар А. М. Ляпіч
Вокладка В. Ф. Ачайкіна
Мастацкі рэдактар В. Ц. Лапіцкі
Тэхнічны рэдактар Г. М. Раманчук
Карэктары Я. М. Бяганскі, В. В. Нікіціна

АТ 06014. Здадзена ў набор 26/VIII 1974 г. Падпісана да друку 14/I 1975 г. Фармат 70X108[1]/[32]. Папера друк. № 2. Фіз. друк. арк. 2. Ум. друк. арк. 2,8. Ул.-выд. арк. 2,92. Заказ 1749. Тыраж 5800 экз. Цана 20 к. Друкарня Выдавецтва БДУ імя У. І. Леніна. Мінск, вул. Кірава, 24.

**Царанкоў Л. А.**

Ц 18 Францыск Скарына і яго час. Мн., Выд-ва БДУ, 1975.

64 с.

У брашуры на шырокім гістарычным фоне разглядаецца жыццё і дзейнасць Ф. Скарыны — выдатнага прадстаўніка старажытнай беларускай культуры. Вядзецца размова аб буйнейшых сучасніках нашага першадрукара, выхадцах з Польшчы, Беларусі і Украіны.

Выданне будзе карысным студэнтам, выкладчыкам гісторыі беларускай літаратуры і ўсім, хто цікавіцца старажытным перыядам яе развіцця.

Ц $\frac{70202-002}{М317-75}$ 47—75 **8Бел1+002**

З даўніх часоў нашы продкі добра разумелі значэнне пісьмовага слова ў справе пашырэння культуры і асветы. Больш за тысячу гадоў назад кожны летапісец, які вёў запісы гістарычных падзей, выказваў сваё замілаванне да кніг, стваральнікам якіх быў сам. Ён падкрэсліваў вялікую карысць адукацыі, вобразна параўноўваў кнігі з рэкамі, якія пояць увесь свет, лічыў іх найвялікшай крыніцай чалавечай мудрасці. Таму не дзіўна, што ўжо самыя першыя пробліскі культуры нашых продкаў — усходніх славян — звязаны з кнігамі.

Складанай і цяжкай справай было стварэнне кніг на Русі, напрыклад, у XI ст., калі яшчэ не былі вынайдзены папера і кнігадрукаванне. У старадаўнія часы кнігі пісаліся або перапісваліся ад рукі.

Пісалі першыя кнігі нашы далёкія продкі на пергаменце — тонкай, спецыяльна выробленай цялячай скуры. Пісаць або перапісваць кнігі мог не проста пісьменны чалавек, а такі, які быў яшчэ і мастаком. Даводзілася старанна выводзіць кожную літару, рознымі фарбамі размалёўваць пачатковыя літары, застаўкі, загалоўкі, канцоўкі, якія складаліся з цікавых малюнкаў-мініяцюр, упрыгожанных жывёльным і раслінным арнаментам.

Патрэбны былі вялікае, сапраўды бескарыснае замілаванне і натхнёная любоў перапісчыка да сваёй справы, цяжкай і доўгай працы, любоў, якую жывіла ўсведамленне вялікай карысці кніг для людзей. Не дзіўна, што заканчэнне шматгадовай улюбёнай працы па стварэнню кнігі прыносіла перапісчыку або аўтару яе вялікае маральнае задавальненне. Адзін з такіх падвіжнікаў-перапісчыкаў, заканчваючы сваю працу і радуючыся яе плёнам, сцвярджаў, што як радуецца падарожнік вяртанню на бацькаўшчыну, так радуецца перапісчык сканчэнню сваёй працы. Надзвычайна праўдзівы вобраз перапісчыка, натхнёнага сваёй любімай працай, стварыў Максім Багдановіч у вершы «Перапісчык»:

На чыстым аркушы, прад вузенькім акном,
Прыгожа літары выводзіць ён пяром,
Устаўляючы паміж іх чорнымі радамі
Чырвоную страку; усякімі цвятамі,
Рознакалёрнымі галоўкамі звяроў
І птах нявіданых, спляценнем завіткоў
Ён пакрашае скрозь,— даволі ёсць знароўкі —
Свае шматфарбныя застаўкі і канцоўкі[1].

Пісаліся кнігі найчасцей пры княжацкіх дварах або манастырах. Перапісчыкамі былі пераважна манахі, людзі, якія, адмовіўшыся ад розных «мірскіх» (жыццёвых) спраў, змаглі цалкам прысвяціць сябе гэтай цяжкай справе. Важнейшымі цэнтрамі перапісвання кніг у Старажытнай Русі былі гарады Кіеў, Ноўгарад, Полацк, Тураў (апошнія два на тэрыторыі сучаснай Беларусі).

Да нас дайшла значная колькасць старажытных рукапісных кніг, якія ствараліся нашымі продкамі, пачынаючы з сярэдзіны XI ст. (найбольш ранція помнікі пісьменнасці ўзыходзяць яшчэ да канца X ст.).

Першая з дайшоўшых да нас кніг, створаных на Русі,—«Остромирово Евангелие». Гэта кніга вялікіх памераў, напісаная буйнымі літарамі на пергаменце. Перапісана яна дыяканам Грыгорыем для наўгародскага пасад-

ніка Астраміра ў 1056—1057 гг. Гэта унікальны, сусветнага значэння помнік культуры Старажытнай Русі. Тэкст яго ўпрыгожан высокамастацкімі мініяцюрнымі малюнкамі — у застаўках, буквіцах, канцоўках. Зараз кніга захоўваецца ў Ленінградзе ў фондах Дзяржаўнай публічнай бібліятэкі імя М. Я. Салтыкова-Шчадрына.

Сярод іншых рукапісных кніг, створаных у Старажытнай Русі, назавём «Туровское Евангелие» XI ст., пачатковы рускі летапіс («Повесть временных лет»), нарэшце, найвялікшы твор мастацкай агульнарускай літаратуры канца XII ст. «Слово о полку Игореве» (апошнія два помнікі вядомы па спісах больш позніх часоў).

З канца XIV, потым у XV, XVI ст. і пазней з'яўляюцца кнігі, напісаныя на старажытнай беларускай мове, сярод якіх у першую чаргу павінны быць названы беларуска-літоўскія летапісы.

У старажытнасці кніга была з'явай рэдкай, унікальнай і вельмі дарагой. Набыць яе было пад сілу толькі манастырам і багатым людзям — князям. Пры некаторых княжацкіх дварах і манастырах былі створаны вялікія для свайго часу бібліятэкі, некаторыя з іх складаліся з дзесяткаў кніг. Па тым часе гэта было вельмі нямала. Вядома, што не ўсе яны дайшлі да нас. Частыя войны на тэрыторыі нашай радзімы знішчалі матэрыяльныя і культурныя набыткі нашых продкаў. Беззваротна гінулі і кнігі. Да нас дайшла толькі, відаць, невялікая іх частка.

Далейшы рост культуры не мог забяспечвацца марудным працэсам стварэння кніг перапісваннем іх ад рукі. Жыццё патрабавала, каб тая або іншая кніга распаўсюджвалася шырока, у многіх экземплярах. Узнікае кнігадрукаванне, і вынаходніцтва яго мы расцэньваем як адно з найвялікшых дасягненняў чалавецтва.

Першыя спробы кнігадрукавання ўзнікаюць у Кітаі ў IX ст. (там яшчэ ў II ст. н. э. была вынайдзена папера). Друкарскія формы выраблялся на драўляных дошках. На іх малявалі іерагліфічны тэкст і ілюстрацыі, потым

выразалі па малюнку паглыбленні ў тых месцах, якія не павінны былі адбіцца на паперы, пакрывалі фарбай рэльефныя месцы, прыцiралі да формы ліст паперы, атрымліваўся адбітак тэксту і ілюстрацый. Да XI ст. належыць вынаходства ў Кітаі друкавання наборнымі іерогліфамі, якія выраблялiся з гліны і для трываласці абпальваліся. Такі спосаб кнігадрукавання ў XIII ст. быў удасканален у Карэі — там іерогліфы пачалі адліваць з бронзы[2].

З канца XIV — пачатку XV ст. пачынаецца кнігадрукаванне ў Заходняй Еўропе. Тэкст на паперу спачатку наносіўся з гравіраваных драўляных дошчак. Але ўжо да сярэдзіны XV ст. адносіцца вынаходства кнігадрукавання з наборных літар, зробленае нямецкім друкаром Іяганам Гутэнбергам (1440 г. лічыцца ў Германіі ўмоўнай датай пачатку кнігадрукавання пры дапамозе металічных наборных літар). Першымі друкаванымі кнігамі (іх называюць інкунабуламі), якія выйшлі з друкарні Гутэнберга ў горадзе Майнцы, былі: паэма на нямецкай мове «Сівіліна кніга», лацінская граматыка Элія Даната, календары.

У канцы XV ст. у Кракаве выходзяць першыя друкаваныя кнігі на стараславянскай мове, набраныя кірыліцай, у друкарні Швайпольта Фіёля, кракаўскага мешчаніна нямецкага паходжання. Да Фіёля ў вялікай ступені падыходзіла народная прымаўка —«майстар на ўсе рукі». Згодна з дадзенымі кракаўскіх архіваў, ён займаўся не толькі выданнем кніг, але і ювелірным майстэрствам, вынаходніцтвам у горнай справе; да ўсяго гэтага, Фіёль быў вельмі прадпрыймальным чалавекам і камерсантам па натуры.

Вырашыўшы заняцца кнігадрукаваннем на старaславянскай мове, ён першы стварыў кірылічны шрыфт і ў 1491 г. выдаў чатыры богаслужэбныя кнігі —«Октонх», «Часослов», «Триодь постная» і «Трнодь цветная» (даты выдання апошніх дзвюх невядомыя). Фіёль па праву лічыцца пачынальнікам славянскага кнігадрукавання, сла-

вянскім першадрукаром. Але выпуск кніг кірылічным шрыфтам для патрэб праваслаўнай царквы не адпавядаў інтарэсам Каралеўства Польскага, і таму гэтая справа ў сталіцы каталіцкай Польшчы Кракаве працягвалася нядоўга. Самога ж выдаўца інквізіцыя абвінаваціла ў ерасі. Яму давялося на працягу некалькіх месяцаў сядзець у турме. Праўда, праз нейкі час яму ўдалося апраўдацца. Выпушчаны з турмы, Фіёль пакідае Кракаў і Каралеўства Польскае, пераязджае спачатку ў Сілезію, а потым у Венгрыю. Тут ён друкарскай справай не займаўся. Памёр у 1525 г.

Кнігадрукаванне ў Заходняй Еўропе пачынаецца ў эпоху Адраджэння, гэта значыць у час узнікнення і першапачатковага развіцця буржуазных адносін. Згодна характарыстыкі Ф. Энгельса, у эпоху Адраджэння ў Заходняй Еўропе былі «закладзены асновы для пазнейшага сусветнага гандлю і для пераходу рамяства ў мануфактуру, якая, у сваю чаргу, паслужыла зыходным пунктам для сучаснай буйной прамысловасці»[3]. Ф. Энгельс ацэньваў эпоху Адраджэння як «найвялікшы прагрэсіўны пераварот з усіх перажытых да таго часу чалавецтвам»[4]. Яна азнаменавалася такімі вялікімі гістарычнымі падзеямі, як фарміраванне сучасных заходнееўрапейскіх нацый, нацыянальных дзяржаў, нацыянальных моў, літаратур, небывалае павышэнне попыту на кнігі, пачатак кнігадрукавання, рост і развіццё гандлю, узвышэнне гарадоў, пашырэнне адукацыі, росквіт прыродазнаўства, вызваленне перадавой чалавечай думкі ад путаў рэлігіі. Усё гэта было выклікана такімі вялікай важнасці гістарычнымі фактарамі, як пераход краін Заходняй Еўропы да сусветнага гандлю ў сувязі з вялікімі геаграфічнымі адкрыццямі, пераход ад рамяства да мануфактуры ў сувязі з аграрным пераваротам, рэвалюцыя ў Нідэрландах, Вялікая Сялянская вайна ў Германіі.

Эпоха Адраджэння, якая знаменавала сабой прыход новага часу, новай культуры, і ўсталяванне капіталістыч-

ных адносін, была ў вышэйшай ступені гістарычна прагрэсіўнай. Нездарма так высока ацэньвае Ф. Энгельс людзей гэтай эпохі: «Людзі, якія заснавалі сучаснае панаванне буржуазіі, былі ўсім чым хочаш, але толькі не людзьмі буржуазна-абмежаванымі»[5]. Эпоха Адраджэння нарадзіла вялікіх гуманістаў, «волатаў па сіле думкі, страсці і характару, па шматбаковасці і вучонасці»[6], людзей усебакова адароных — пісьменнікаў, паэтаў, мастакоў, скульптараў, архітэктараў. Дантэ, Петрарка, Баккаччо, Арыоста, Тасса, Рафаэль, Мікеланджэла, Леанарда да Вінчы (Італія), Ульрых фон Гутэн (Германія), Эразм Ратэрдамскі (Нідэрланды), Рабле, Рансар (Францыя), Сервантэс, Лопэ дэ Вэга, Кальдэрон (Іспанія), Шэкспір (Англія) — імёны толькі найвялікшых волатаў заходнееўрапейскага Адраджэння. Гэтыя геніі чалавецтва стварылі сапраўды непераходзячай каштоўнасці шэдэўры розных відаў мастацтва і літаратуры, яны былі заснавальнікамі рэнесанснага гуманізму, аднавіўшага ў правах чалавека-творцу, з яго пачуццямі, імкненнямі — у супрацьлегласць аскету, абвешчанаму сярэдневяковай царкоўна-каталіцкай дагматыкай ідэалам чалавека. Аўтарытэты, традыцыі і царкоўныя догмы сярэдневякоўя крытычна пераглядаліся. Была асуджана і зломлена духоўная дыктатура царквы і замест яе ўмацавалася вера чалавека ў свае сілы, у свой розум. Гуманісты эпохі Адраджэння, выступаючы супраць сярэдневяковага аскетызму, услаўлялі невычэрпныя багацці духоўных сіл чалавека, творцы ўсіх зямных даброт, узводзілі ў культ яго маральную і фізічную прыгажосць, імкненне да шчасця і радасці. Насуперак сярэдневяковаму царкоўнаму погляду на працу як на пракляцце чалавецтва, пасланае яму богам, гуманісты прапагандавалі актыўную дзейнасць людзей у імя свайго шчасця, абаранялі высокія вартасці сваёй прыроды, здольнай да ўдасканалення. Яны сцвярджалі і даводзілі, што сапраўдная высакароднасць не перадаецца ў спадчыну ад бацькі да сына, а набываецца

кожным чалавекам сваімі асабістымі ведамі і заслугамі перад іншымі людзьмі. Характэрнай рысай гуманістаў, людзей эпохі Адраджэння, было пачуццё нацыянальнай самасвядомасці, глыбокі патрыятызм. Яны стваралі мастацкія творы на роднай мове, паклаўшы пачатак развіццю нацыянальных моў і літаратур,— насуперак паўсямесна панаваўшай у Заходняй Еўропе ў эпоху сярэдневякоўя латыні, развівалі і пашыралі розныя віды мастацтваў, асвету і адукацыю.

Мастакі, скульптары і пісьменнікі эпохі Адраджэння звяртаюцца да антычнасці — літаратуры і мастацтва, філасофіі старажытнай Грэцыі і Рыма. Нават само слова «Адраджэнне» разумеецца (вядома, у самым непасрэдным сэнсе) як адраджэнне забытай у эпоху сярэдневякоўя антычнай культуры, незалежнай ад рэлігійных дагматаў, узводзіўшай у культ прыгажосць чалавека, ідэалы шчасця на зямлі (насуперак царкоўна-рылігійным ідэалам аскетызму, адмаўлення ад радасцей жыцця ў імя «шчасця», «вечнага жыцця» ў замагільным свеце). Выдатнейшыя дзеячы мастацтва эпохі Адраджэння займаюцца росшукам і глыбокім вывучэннем забытых і занядбаных у сярэднія вякі помнікаў антычнай літаратуры і мастацтва, распаўсюджваннем і каменціраваннем іх. Паэты ў сваёй творчасці выкарыстоўваюць вобразы старажытнагрэчаскай і рымскай літаратуры, успрымаюць погляды антычных мысліцелей як найбольш аўтарытэтныя ў процівагу філасофска-тэалагічным сістэмам сярэдневяковых схаластаў, у тым ліку «айцоў» каталіцкай царквы. Вось як аб гэтым боку светапогляду і дзейнасці вялікіх гуманістаў Адраджэння пісаў Ф. Энгельс: «У выратаваных пры падзенні Візантыі рукапісах, у выкапаных з руін Рыма антычных статуях перад здзіўленым Захадам паўстаў новы свет — грэчаская старажытнасць; перад яе светлымі вобразамі зніклі прывіды сярэдневякоўя; у Італіі наступіў нябачны росквіт мастацтва, які з'явіўся як бы водбліскам класічнай старажытнасці і якога ніколі ўжо

больш не ўдавалася дасягнуць. У Італіі, Францыі, Германіі ўзнікла новая, першая сучасная літаратура. Англія і Іспанія перажылі хутка ўслед за гэтым сваю класічную літаратурную эпоху»[7].

Зварот да антычнасці ў эпоху Адраджэння, як адзначаў Ф. Энгельс, спрыяў нябачанаму да гэтага часу росквіту ўсіх відаў мастацтва, сапраўды свецкага, далёкага ад сярэдневяковага культу аскетызму. І хоць рэнесансныя мастакі і скульптары ў сваёй творчасці нярэдка звярталіся і да рэлігійнай тэматыкі, яны стваралі не якіясьці адцягненыя, ідэальныя з пункту погляду рэлігійнай ідэалогіі вобразы аскетаў-святых, што адракліся ад усіх радасцей зямнога («на гэтым свеце») існавання, а вобразы жывых людзей з глыбокімі, сапраўды чалавечымі пачуццямі радасці, лікавання, або, наадварот,— смутку, пакут і г. д.

Культура эпохі Адраджэння, зарадзіўшыся ў Італіі, пашыралася на ўсе важнейшыя краіны Заходняй Еўропы, а таксама і на краіны славянскага свету. У гэтую эпоху дасягае свайго росквіту культура ў Далмацыі, Чэхіі, Польшчы.

Прадстаўніком навукі эпохі Адраджэння, вялікім вучоным з сусветным імем быў паляк Мікалай Капернік (1473—1543). Выдатнымі стваральнікамі польскай нацыянальнай літаратуры, прадстаўнікамі Рэнесансу ў Польшчы былі Мікалай Рэй (1505—1569) і Ян Каханоўскі (1530—1584).

У эпоху заходнееўрапейскага Рэнесансу беларускі народ знаходзіўся ў стане сацыяльнага і нацыянальнага ўціску з боку польскіх феадалаў. Яны не лічылі беларусаў самастойнай нацыянальнасцю, трымалі ў прыгнечаным стане не толькі іх культуру, але нават і рэлігію, імкнуліся іх апалячыць. І ўсё ж, нягледзячы на тое, што ў Беларусі гістарычныя ўмовы для стварэння і росквіту новай, рэнесанснай культуры былі выключна неспрыяльныя, і тут, як гэта было характэрна для агульнаеўрапей-

скага руху эпохі Адраджэння, развівалася нацыянальная мова, літаратура на ёй, з'явіліся выдатныя гуманісты-патрыёты, якія прысвяцілі сваё жыццё справе пашырэння і развіцця нацыянальнай культуры, распаўсюджвання асветы ў родным краі. Найвялікшым дзеячом, вучоным-гуманістам беларускага Прадрэнесансу быў Францыск Скарына.

* * *

Эпоха, калі жыў і працаваў Францыск Скарына,— гэта час вялікіх падарожжаў, геаграфічных адкрыццяў, навуковых вынаходстваў, бурнага развіцця мастацтва і вялікіх антыфеадальных войн. «У 1525 годзе, калі Ф. Скарына наладзіў выданне кніг у Вільні, полымя сялянскай вайны пад кіраўніцтвам Томаса Мюнцэра ахапіла ўсю Германію»[8].

Мы не маем дакументальных дадзеных аб асабістых сувязях Скарыны як са сваімі выдатнымі суайчыннікамі, так і з дзеячамі заходнееўрапейскага Адраджэння, напрыклад, з такімі, як Эразм Ратэрдамскі або з вялікімі мастакамі, скульптарамі Італіі — Рафаэлем, Мікеланджэла, Леанарда да Вінчы. Не дайшло да нас ніякіх звестак аб яго сувязях нават з сучаснікамі — дзеячамі польскай культуры — Мікалаем Капернікам, Мікалаем Рэем, Янам Кахапоўскім. Няма ніякіх дакументальных дадзеных і для таго, каб магчыма было з упэўненасцю сцвярджаць аб зносінах з кіраўніком Сялянскай вайны ў Германіі Томасам Мюнцэрам. Але нам цяжка дапусціць, каб такі ўсебакова адукаваны чалавек як Скарына не быў знаёмы, напрыклад, з «Пахвальным словам Глупству» (1511) Э. Ратэрдамскага і з іншымі творамі свайго часу.

Сучаснікамі Скарыны былі і многія паэты-гуманісты, дзеячы польскага Прадрэнесансу, напрыклад, польска-

лацінскі паэт Ян з Вісліцы (каля 1490— каля 1520), які навучаўся ў Кракаўскім універсітэце і скончыў яго адначасова са Скарынай. Ян з Вісліцы, вядомы як аўтар лацінскай паэмы «Пруская вайна» (1515), у якой паэт апяваў Грунвальдскую перамогу, з вялікай сімпатыяй пісаў аб беларусах, усхваляў «вайсковую доблесць літоўцаў»[9].

Вось чатыры радкі з паэмы «Пруская вайна», у якіх паэт з захапленнем гаворыць аб Літве (дарэчы тут сказаць, што Беларусь, якая ў той час уваходзіла ў склад Вялікага княства Літоўскага, ва ўяўленні яго магла быць толькі як Літва):

Край просторный нам ведом дремучих лесов и урочищ;
Тянется он широко до пределов скифского царства.
Много лугов медоносных, полей изобильных и пастбищ
В этой богатой стране, военной гордящейся славой[10].

У гэты прасторны край лясоў і ўрочышчаў, якія даходзілі да скіфскіх стэпаў, уваходзіла і тэрыторыя Беларусі.

Сучаснікам Скарыны быў вялікі паэт-гуманіст Мікола Гусоўскі (каля 1480— пасля 1533).

Гэта быў выдатны паэт эпохі Адраджэння, беларус па паходжанню. Свае творы ён пісаў на лацінскай мове. Галоўны з іх — паэма «Песня пра зубра», якая ўпершыню надрукавана ў Кракаве ў 1523 г. вядомым выдаўцом Іеранімам Віеторам. У XIX ст. яна выклікала значную цікавасць у Расіі, у 1855 г. была перакладзена на рускую мову і толькі нядаўна чытачы Беларусі атрымалі гэты выдатны твор у перакладзе Я. Семяжона.

Паэма Гусоўскага напісана на ўзроўні самых выдатных свецкіх твораў найвялікшых мастакоў слова краін Заходняй Еўропы эпохі Адраджэння.

Некаторыя важныя звесткі з біяграфіі паэта дае яго паэма, а таксама аўтарскае прысвячэнне твора каралеве Боне (італьянцы па паходжанню, уроджанай Сфорца),

жонцы польскага караля Сігізмунда I, якая валодала ў Беларусі вялікімі абшарамі зямлі.

Нарадзіўся і вырас паэт у сям'і паляніўчага-палясоўшчыка ў Беларусі. Сучасныя польскія даследчыкі лічаць яго беларусам, бо ўраджэнец Польшчы не можа, на іх думку, так дасканала ведаць народныя павер'і беларусаў. З твора відаць, што паэт моцна любіў родную прыроду, яе пушчы, рэкі, быў удзельнікам небяспечных паляванняў на зубраў. У паэме гаворыцца:

Колькі нагледзеўся смерці, наслухаўся енку
Ў пушчах, пакуль мяне, сына, вучыў палясоўшчык[11].

Аб беларускім паходжанні паэта сведчаць яго прызнанні аб навучанні «па кнігах славянскіх, граматай рускай, кірыліцай пісаных вязкай»[12].

Твор сведчыць не толькі аб магутным таленце геніяльнага паэта, але і высокай адукаванасці, хоць ён і не гаворыць аб тым, дзе і калі вучыўся. Затое Гусоўскі расказвае пра сваю службу ў плоцкага епіскапа Эразма Цёлка; апошні доўга жыў у Вільні і чытаў лекцыі ў калегіуме. Магчыма, там у гэты час навучаўся Гусоўскі і атрымаў грунтоўныя веды з гісторыі Вялікага княства Літоўскага, якія ён выяўляе ў сваёй паэме; магчыма, што ў гэты час Эразм Цёлк заўважыў таленавітага юнака і ўдзяў яго ў сваю світу. Вядома, што пазней Цёлк у якасці дыпламата знаходзіўся ў Рыме. Сам паэт гаворыць аб тым, што ў свіце епіскапа і ён жыў пэўны час у вечным горадзе і наступным чынам паведамляе творчую гісторыю сваёй паэмы:

Неяк у Рыме пры сціжме людзей незлічонай
Сведкам відовішча быў я — бою быкоў на арэне.
Люд пацяшаўся, гудзелі, як вулей, трыбуны,
Стрэлы ж і коп'і ўпіваліся ў целы жывёлін.
Боль прычыняючы ім невыносны. Пакуль мы глядзелі,
Як вар'яцеюць быкі і як рыцца ярасць
З позіркаў раненых, гул выклікаючы ў цырку,—
Хтосьці сказаў: «Як у нас на зубрынай аблаве».

Я пагадзіўся і там жа ў сваім асяроддзі
Усё расказаў, што і ў нас у змаганні зацятым
Гэткім жа чынам адольваюць дужага звера.
Як і гаворыцца ў прыказцы мудрай, язык мой
Мой жа быў вораг. Праслухаўшы ўсё ў захапленні,
Мне загадалі адразу ж узяцца за працу,
Каб успаміны свае, пераліўшы ў памер вершаваны,
Песняй зрабіць і пра нас, і пра нашы аблавы[13].

У прысвячэнні паэмы каралеве Боне паэт гаворыць аб тым, што напісаць паэму яму даручыў яго патрон Эразм Цёлк для рымскага папы Льва X. Твор напісан на класічнай латыні, як відаць, таму, што прадназначаўся для рымскага папы і прысвячаўся Боне Сфорца, жанчыне па свайму часу высока адукаванай і таму добра валодаўшай латынню.

«Песня пра зубра» змяшчае багаты гістарычны і этнаграфічны матэрыял, звязаны з Беларуссю, падае таленавітыя апісанні беларускай прыроды, жыцця, павадак зубраў, карціны палявання на іх. Паэма сведчыць аб несумненнай прыналежнасці аўтара да рэнесанснага гуманізму. Паэт выступае як палымяны патрыёт. І хоць галоўная тэма паэмы — расказ пра зубраў і паляванне на іх, аўтар апавядае пра сучасныя яму і папярэднія гістарычныя падзеі. У высокамастацкіх адступленнях ад асноўнай тэмы паэт робіць экскурсы ў гісторыю Літвы, гаворыць пра ордэн, турэцкую небяспеку. З болем і смуткам гаворыць паэт пра гора, якое прынеслі народу несправядлівыя і прагныя феадалы:

Гонар, сумленне зямных уладарцаў, здаецца,
Спяць бестурботна. Усе іх учынкі і справы
Людзям на гора, дзяржаве ж — на шкоду і страты[14].

«Песня пра зубра» ў поўным сэнсе слова свецкі твор. Праўда, як гэта вельмі часта назіралася і ў выдатнейшых гуманістаў Заходняй Еўропы, у паэме адчуваецца рэлігійнасць аўтара. Але цікава, што ў сваім надзвычайна паэтычным звароце-малітве да маткі боскай Гу-

соўскі просіць не аб выратаванні яго душы пасля смерці, а аб пазбаўленні радзімы ад тых няшчасцяў, якія ў ёй панавалі.

Да апошняга часу (1968—1969) паэма не была вядомай беларускаму чытачу і даследчыкам старажытнай беларускай літаратуры. Праўда, твор Гусоўскага добра ведалі даследчыкі славянскіх літаратур эпохі Адраджэння. Вельмі высока ацэньвалі «Песню пра зубра» польскія філолагі. Некаторыя з іх бачылі ў «Песні» выдатны твор польска-лацінскай літаратуры да Яна Каханоўскага. Іншыя, у тым ліку і сучасныя даследчыкі, адзначаюць уплыў, які зрабіла паэма М. Гусоўскага на А. Міцкевіча.

Цяжка дапусціць, каб Скарына не быў знаёмы з выдатным творам Гусоўскага.

Цікавы і такі сучаснік Скарыны, як Ян Дантышак (1485—1548), відны дыпламат і польска-лацінскі паэт-гуманіст, вядомы сваімі вершамі не толькі ў Польшчы, але і «ва ўсіх заходнееўрапейскіх сталіцах яго часу»[15]. Яго лёс нагадваў багатае прыгодамі жыццё многіх выдатных дзеячоў эпохі Адраджэння Заходняй Еўропы. У маладыя гады Дантышак вывучаў мастацтва вершаскладання ў Паўла з Кросна ў Кракаўскім універсітэце, удзельнічаў у вайсковых паходах, падарожнічаў па Італіі, Палестыне. Гэта быў прыдворны паэт, які ў сваіх вершах услаўляў польскага караля, апісваў розныя падзеі ў яго жыцці. На працягу значнага часу ён займаўся і дыпламатычнай дзейнасцю. У 1515 г. яму даводзілася суправаджаць Сігізмунда I у Вену[16]. Ён знаёміцца і заводзіць сувязі з буйнейшымі вучонымі свайго часу, дзяржаўнымі і культурнымі дзеячамі, паэтамі краін Заходняй Еўропы.

Нельга не адзначыць цікавага, выключна каларытнага сучасніка Скарыны Анджэя Кржыцкага (1482—1537) — паэта-сатырыка Прадрэнесансу. Каталіцкі епіскап Кржыцкі быў вядомы сваімі вершамі, прысвечанымі выкрыццю духавенства — манахаў і епіскапаў,— іх

ханжаства, п'янства, распусты. У Італіі ён набывае гуманістычную адукацыю, потым на радзіме, у Польшчы, атрымлівае высокія пасады — падканцлера каралеўства, затым сакратара караля Сігізмунда і нарэшце вышэйшыя пасады духоўнай іерархіі каталіцкай царквы Польшчы. Высока ацэньваў сатырычныя вершы Кржыцкага нідэрландскі пісьменнік Эразм Ратэрдамскі. Тут нельга не адзначыць уплыву з яго боку на дзеячоў польскага гуманізму — сучаснікаў Скарыны. Вялікі гуманіст вёў з імі перапіску (асабліва энергічную ў 20-х гадах XVI ст.). Кнігі Эразма Ратэрдамскага распаўсюджваліся ў Польшчы (найбольш у Кракаве), і таму, трэба думаць, яны не маглі быць невядомы Скарыне. Асабліва цесна Эразм Ратэрдамскі быў звязан з А. Кржыцкім, Я. Дантышкам. Яны засвойвалі ідэі нідэрландскага гуманіста, захапляліся яго «Пахвальным словам Глупству». Такім быў і лацінска-польскі паэт Клеменс Яніцкі (1517—1543). Нарэшце, малодшым сучаснікам Скарыны быў і пачынальнік літаратуры на нацыянальнай польскай мове Мікалай Рэй (1504—1569).

Нельга не адзначыць той факт, што ў час Скарыны адбываліся выдатныя падзеі, звязаныя з шырокім народным рухам у краінах Сярэдняй і Заходняй Еўропы.

Вялікая Сялянская вайна ў Германіі 1525 г. пад кіраўніцтвам народнага героя Томаса Мюнцэра была магутным антыфеадальным рухам, накіраваным супраць асноў тагачаснага грамадскага ладу. Томас Мюнцэр — высокаадукаваны для свайго часу чалавек, меў ступень доктара багаслоўя, добра ведаў антычную і сучасную яму гуманістычную літаратуру. Яго прапаганда перайначання існаваўшага эксплуататарскага ладу, знішчэння князёў і паноў мела рэлігійную афарбоўку.

Светапогляд Томаса Мюнцэра рэзка адрозніваўся ад светапогляду яго сучасніка і дзеяча Рэфармацыі ў Германіі, заснавальніка пратэстантызму (лютэранства) Мартына Лютэра (1483—1546). Хоць Лютэр і выступаў

супраць папскага Рыма і наогул супраць каталіцызму, але быў супраць рэвалюцыйнага выступлення народа. З гэтай прычыны Лютэр перайшоў на бок феадалаў, яшчэ да таго як пачалася Вялікая Сялянская вайна ў Германіі.

Раней, прыблізна за дзесяць гадоў да Вялікай Сялянскаи вайны ў Германіі, адбыўся такой жа небывалай да гэтага часу сілы антыфеадальны рух у Венгрыі — паўстанне сялян (1514). Поруч з венгерскімі сялянамі ў ім актыўны ўдзел прымалі трансільванцы, валахі, славакі, закарпацкія ўкраінцы. Кіраваў барацьбой народных мас выхадзец з дробных дваран Д'ёрдзь Дожа, які незадоўга да гэтага вылучыўся ў барацьбе супраць турэцкіх захопнікаў.

Паўстанне пачалося з таго, што на полі недалёка ад Пешта сабраліся тысячы сялян і гаражан, узброеных дубінамі, цапамі, косамі. Сабраліся яны са згоды буйных феадалаў і з благаславення рымскага папы Льва X, якія заклікалі просты люд уступаць у атрады на крыжовы паход супраць Турцыі. Буйныя феадалы даручылі Д'ёрдзю Дожы ўзначаліць атрады сялян, якія павінны былі пазбавіць краіну і феадалаў ад турэцкай небяспекі (самі феадалы ў гэтым руху ўдзелу не прымалі). Для вайны супраць турак ад феадалаў сяляне атрымалі зброю.

І сяляне падняліся на барацьбу за сваё вызваленне ад нявольніцтва. Яны збіраліся ў гарадах, абіралі сабе вайсковых кіраўнікоў. «Сам Дожа падзяляў гнеў свайго войска супраць здраднікаў-дваран. Крыжаноснае войска ператварылася ў рэвалюцыйную армію, і Дожа стаў на чале гэтага новага руху»[17].

Як правадыр і ідэолаг паўстання Дожа заклікаў сялян і ўвесь прыгнечаны люд на барацьбу супраць венгерскіх феадалаў. Летам 1514 г. паўстанне распаўсюдзілася па ўсёй краіне. Паўстанцы распраўляліся з ненавіснымі прыгняталнікамі-феадаламі, захапілі шмат

гарадоў. Насельніцтва гэтых гарадоў улівалася ў рады народных змагароў. Адбывалася адна з вялікіх класавых боек супраць феадальнага ладу, меўшых месца ў XVI ст. Пад кіраўніцтвам Дожы паўстанцы разбілі войскі феадалаў на беразе ракі Цісы; кіраўнік паўстання разаслаў па ўсёй Венгрыі маніфест, у якім расказваў народу пра тыранства свецкіх і духоўных феадалаў. Размах паўстання быў надзвычайна вялікі, а мэты і патрабаванні, якія выказваў Дожа,— выразныя: знішчыць феадальныя замкі і ўсіх да аднаго дваран, ліквідаваць прыгоннае рабства, падзяліць паміж сялянамі землі, што належалі дваранству, і ўстанавіць роўнасць паміж людзьмі працы.

Палітычныя погляды Д'ёрдзя Дожы і яго паслядоўнікаў не мелі рэлігійна-містычнай афарбоўкі, уласцівай, напрыклад, антыфеадальнаму руху гусітаў у Чэхіі і Рэфармацыі ў Германіі. Д'ёрдзь Дожа змагаўся за ажыццяўленне ідэі самых прагрэсіўных і паслядоўных гуманістаў — ідэі роўнасці ўсіх людзей перад законам. Ён «прызнаваў толькі маральнае і духоўнае высакародства, адвяргаў спадчынныя прывілеі... Дожа лічыў неабходным адкрыць плебеям доступ да ўсіх пасад у дзяржаве»[18].

Трэба асабліва адзначыць, што магутнае антыфеадальнае сялянскае паўстанне ў Венгрыі (суседняй з Польшчай, дзе прыблізна за восем — дзесяць год да яго Ф. Скарына навучаўся ва універсітэце) адбывалася ў гады маладосці першадрукара, за пяць гадоў да пачатку яго кнігавыдавецкай дзейнасці. Нічога нам не вядома аб адносінах Ф. Скарыны да гэтага магутнага сялянскага руху, як і да Вялікай Сялянскай вайны ў Германіі (1525), невядома, які ўплыў на яго светапогляд зрабілі гэтыя выдатныя гістарычныя падзеі (аб гэтым ён нідзе ў сваіх кнігах не выказваўся).

Таму мы не будзем настойваць услед за некаторымі даследчыкамі скарынінскай спадчыны на сцвярджэнні

думкі аб сувязі ідэй Ф. Скарыны з ідэямі Рэфармацыі або пратэстантызму, як і антыфеадальным народным рухам. Такое меркаванне да пэўнай ступені апраўдваецца, калі ўлічыць, што Ф. Скарына заўсёды з любоўю ў сваіх кнігах пісаў аб простым людзе. Апрача таго, дапусціць думку аб тым, што сучасныя яму выдатныя гістарычныя падзеі ні ў якой меры не хвалявалі або не цікавілі такога буйнага дзеяча культуры, бадай, немагчыма. Адзначым, што паслядоўнікі і прадаўжальнікі друкарскай справы Ф. Скарыны ў Беларусі — Сымон Будны (1630—1693) і Васіль Цяпінскі (каля 1540— не пазней 1603) — належалі да досыць радыкальных плыней пратэстантызму — антытрынітарызму.

Ідэі Рэфармацыі ў Беларусі не мелі шырокага распаўсюджвання. Імі цікавілася толькі пэўная частка мясцовай феадальнай знаці (магнаты Радзівілы, Сапегі, Хадкевічы, Вішнявецкія, Агінскія і інш.), часткова дробнапамесная шляхта, а таксама некаторыя гараджане-рамеснікі; у шырокіх народных масах гэтыя ідэі папулярнасці не мелі. Калі ў Заходняй Еўропе рэфармацыйны рух быў накіраваны не толькі супраць каталіцкай царквы, але, зліваючыся з народна-вызваленчым рухам, і супраць феадальнага ладу, то ў Беларусі і Літве прадстаўнікі буйных феадалаў, якія захапляліся, напрыклад, ідэямі кальвінізму, мелі на ўвазе аслабленне правоў і прывілеяў каталіцкага духавенства і каралеўскай улады ў сваю карысць; у іх планы зусім не ўваходзіла барацьба супраць асноў феадальнага ладу. Ды і многія літоўска-беларускія магнаты былі звязаны з прадстаўнікамі вышэйшай іерархіі каталіцкага духавенства сваяцкімі ўзаемаадносінамі, а таксама адзінствам класавых інтарэсаў. Таму літоўска-беларускія феадалы, як правіла, усё ж выказваліся за ўмацаванне ў Беларусі пазіцый каталіцкай царквы. Імкненне працоўных мас Беларусі да адзінства з Руссю не спрыяла папулярнасці ў іх асяроддзі ідэй пратэстантызму. Працоўныя — і сяляне і падаўляю-

чая большасць гараджан — з гэтай прычыны вялі барацьбу за тое, каб адстаяць праваслаўе. Іх барацьба мела, разам з тым, антыфеадальны характар.

Нарадзіўся Францыск Скарына ў купецкай сям'і ў «слаўным горадзе Полацку» (так з любоўю неаднаразова гаворыць ён аб сваім родным горадзе ў прадмовах і пасляслоўях да выдадзеных ім кніг). У гэты час Полацк быў адным з самых буйных гарадоў Вялікага княства Літоўскага (насля Вільні); з 1498 г. ён валодаў граматай на Магдэбургскае права. Гэтая грамата давала яму дазвол на самакіраванне, на свой суд, на бяспошлінны гандаль з многімі гарадамі. Таму гандаль і рамяство ў Полацку былі развіты па свайму часу шырока. Полацкія купцы па гандлёвых справах мелі сувязь з Ноўгарадам, Псковам, Смаленскам, Масквой, Рыгай, Пазнанню і іншымі гарадамі. Гэта быў адзін з багацейшых гандлёвых гарадоў Вялікага княства Літоўскага. Аб яго багацці сведчыць, напрыклад, тое, што ён «абкладзены быў штогадовым узносам у казну вялікага князя Літоўскага ў 400 коп грошай, тады як напрыклад, горад Мінск плаціў толькі 60 коп грошай»[19].

Полацк яшчэ ў эпоху Старажытнай Русі з'яўляўся адным з важнейшых адміністрацыйных і культурных цэнтраў усходніх славян, і з тых часоў у ім жыла моцная агульна-руская традыцыя. Тут знаходзіліся выдатныя для ўсёй Русі архітэктурныя збудаванні Сафійскага сабора і Спас-Еўфрасіньеўскага манастыра. У XII ст. у Полацку шырока для свайго часу развівалася перапісванне кніг. Культурная традыцыя, закладзеная ў часы Агульна-Рускай дзяржавы, была моцнай у Полацку ў час Скарыны і пазней. Дарэчы ўспомніць, што Полацк быў радзімай і месцам дзейнасці відных прадстаўнікоў беларускай і рускай культуры, сярод якіх найбольш

буйным з'яўляецца Сімеон Полацкі (1629—1680) — беларускі і рускі паэт, пачынальнік рускай сілабічнай паэзіі і арыгінальнай драматургіі.

Нам мала вядома пра бацьку Францыска Скарыны. Даследчыкі ведаюць, бадай, толькі яго імя. У спісу студэнтаў Кракаўскага універсітэта, дзе вучыўся Францыск Скарына, ён запісаны «Францішак, сын Лукі з Полацка»[20]. Полацкія акты XVI ст. даюць некаторыя звесткі аб брату Францыска Івану Скарыне, які разам са сваім сынам Раманам у Полацку быў гаспадаром родавой маёмасці, частка якой належала і Францыску. З гэтых жа актаў вядома, што полацкія Скарыны мелі гандлёвыя сувязі з Вільняй і Рыгай: палачанін Іван Скарына адначасова лічыўся «мешчанінам віленскім», а сын яго Раман, апрача таго, «служыў у немцах» (відаць, у Рызе)[21].

Дата параджэння Францыска Скарыны засталася невядомай, і таму біёграфы першадрукара і асветніка вызначаюць год яго нараджэння толькі прыблізна — не пазней 1490-га.

Нам нічога невядома аб дзіцячых гадах і раннім юнацтве Францыска Скарыны. За ўпаўне верагоднае і слушнае можна прыняць меркаванне некаторых біёграфаў аб тым, што першапачатковую і, відаць, вельмі грунтоўную адукацыю Скарына атрымаў у Полацку. Апрача таго, зусім натуральна меркаваць, што ранняму развіццю Скарыны і яго імкненню да ведаў спрыялі гандлёвыя сувязі яго бацькі з купцамі, жыхарамі розных гарадоў, магчыма, і сустрэчы з імі ў бацькавым доме.

У 1504 г. Скарына паступае на філасофскі факультэт Кракаўскага універсітэта (адсюль і выказваецца меркаванне аб даце нараджэння Францішка: у названы універсітэт прымаліся асобы, якім было не менш 14 гадоў).

Кракаўскі універсітэт — адна са старэйшых навучальных устаноў Еўропы. Заснаваны ён у 1364 г. У канцы XV і ў пачатку XVI ст. (гэта значыць, якраз у той час, калі паступіў і навучаўся Скарына) універсітэт быў ася-

родкам гуманістычнай навукі ў Польшчы. Ён «славіўся сваімі выдатнымі вучонымі — астраномамі і матэматыкамі, якія шырылі ідэі гуманізму і асветы»[22]. Таму не дзіўна, што моладзь імкнулася ў Кракаў. «Па навуку ў Кракаў ехалі з усяе Еўропы»[23]— Венгрыі, Баварыі, Саксоніі, Славакіі, Маравіі, Швейцарыі, Італіі, шмат было выхадцаў з Вялікага княства Літоўскага, у ліку іх і сыноў Беларусі — з Гродзеншчыны, Слуцка, Ваўкавыска, Ашмян, Полацка і інш. Але так было да трэцяга дзесяцігоддзя XVI ст., калі ва універсітэце пачалося наступленне каталіцкай рэакцыі на Рэфармацыю. Таму моладзь з замежных і славянскіх мясцін «пацягнулася па навуку ў італьянскія універсітэты»[24].

Вывучаючы архівы Кракаўскага універсітэта, беларускі літаратуразнаўца С. Х. Александровіч звярнуў увагу на тое, што ў час, калі там навучаўся Скарына (а таксама раней і пасля), вучылася шмат юнакоў з гарадоў Беларусі (даследчык прыводзіць прозвішчы гэтых юнакоў і ўказвае гарады, адкуль яны паходзяць). Гэтая акалічнасць прывяла даследчыка да вельмі верагоднай думкі аб тым, што «асвета і навучанне на Беларусі стаялі досыць высока, а ў Вільні, Гродне, Слуцку, Ваўкавыску, Ашмянах, Полацку і многіх іншых гарадах і мястэчках былі школы, якія давалі веды, неабходныя для паспяховай вучобы ва універсітэце»[25]. Азнаёміўшыся са спісамі студэнтаў Кракаўскага універсітэта, С. Х. Александровіч адзначае, што ёсць усе падставы сцвярджаць аб існаванні ва універсітэце ў часе навучання там Скарыны вялікага беларускага зямляцтва, а таксама, што нямала выхадцаў з Беларусі атрымлівала універсітэцкую адукацыю і ў іншых гарадах Еўропы. Буйнешы дарэвалюцыйны даследчык жыцця і дзейнасці Скарыны П. В. Уладзіміраў у сваёй працы пра першадрукара адзначае, што для літоўцаў у Кракаўскім універсітэце існавала свая калегія[26].

Яшчэ ў 1875 г. рускі даследчык А. С. Петрушэвіч вы-

казаў думку аб тым, што наколькі Кракаўскі універсітэт знаходзіўся пад апекай рымскай курыі, то ў яго быццам бы не дапускаліся для навучання асобы, якія не належалі да каталіцкай рэлігіі. Таму, каб паступіць у гэты універсітэт, Скарыне патрэбна было змяніць сваё праваслаўнае імя Георгій на каталіцкае Францыск. Гэтую думку прыняў П. В. Уладзіміраў, а ўслед за ім і акадэмік Я. Ф. Карскі, які пісаў: «З лацінскім імем яму (Скарыне.— *Л. Ц.*) зручней было вучыцца ў заходніх каталіцкіх універсітэтах»[27]. Некаторыя рускія даследчыкі (асабліва ў XIX ст.) «хацелі бачыць полацкага друкара абавязкова праваслаўным дзеячом»[28]. Такім жаданнем кіраваліся і некаторыя даследчыкі 30-х, 40-х і часткова 50-х гадоў. Так нарадзілася і потым пашырылася версія аб тым, што Скарына пры паступленні ў Кракаўскі універсітэт быццам бы прыняў каталіцкае імя Францыск замест праваслаўнага Георгій, атрыманага ім пры нараджэнні; пазней жа новае сваё імя ён замацаваў назаўсёды, падпісваў ім усе свае выданні і пад гэтым імем стаў вядомым славутым вучоным-гуманістам.

Большасць аўтарытэтных сучасных даследчыкаў жыцця і дзейнасці Скарыны цвёрда прытрымліваецца думкі, што імя Францыск ён атрымаў пры нараджэнні. Такое перакананне здасца ўпаўне верагодным, калі ўлічыць тое, што сам сябе ў сваіх кнігах Скарына не менш як 115 разоў называе Францыскам і ніводнага разу Георгіем. Апрача таго, ва ўсіх архіўных дакументах, якія дайшлі да нашага часу, ён называецца Францыскам.

Толькі ў адным дакуменце — грамаце на лацінскай мове, якую ў 1532 г. выдаў на імя Скарыны польскі кароль, магчыма, было напісана побач з імем Скарыны «Францыск» і другое —«Георгій». Да нас дайшла копія гэтай граматы, дзе напісана «Георгій Францыск Скарына з Полацка». Некаторыя сучасныя даследчыкі прыйшлі да думкі аб тым, што, капіруючы каралеўскую грамату, перапісчык (магчыма, ён дрэнна ведаў лацінскую мову)

дапусціў памылку — напісаў «Георгій» замест лацінскага слова «эгрэгіус» (паважаны, шаноўны), якое заўсёды ставілася перад імем славутага вучонага. Можна думаць, што ў арыгінале граматы было напісана: «Паважаны (Egregius) Францыск Скарына з Полацка». Таму няма падстаў называць Скарыну Георгіем, і больш правільна будзе называць яго так, як гэта рабіў ён сам,— Францыскам.

С. Х. Александровіч прыводзіць упаўне пераканаўчыя довады аб тым, што пры паступленні ў Кракаўскі універсітэт Скарыне зусім не было ніякай патрэбы мяняць праваслаўнае імя на каталіцкае, бо гэтая навучальная ўстанова ў той час была адкрыта (насуперак сцвярджэнню даследчыка А. С. Петрушэвіча) не толькі для католікаў, але і для праваслаўных. Справа ў тым што ў час, аб якім ідзе размова, у Польшчы дзейнічаў закон 1484 г., «які прыроўніваў у правах праваслаўную царкву да каталіцкага касцёла. Становішча змянілася пазней, калі пачаліся ўзмоцненая паланізацыя і акаталічванне беларусаў і ўкраінцаў, калі палемічная барацьба вакол уніі прынесла больш выразнае размежаванне паміж праваслаўем і каталіцызмам. Аднак і пазней паасобныя дзеячы траплялі ў каталіцкія універсітэты Рэчы Паспалітай»[29].

Уважліва вывучыўшы архівы Кракаўскага універсітэта часу, калі там навучаўся Скарына, С. Х. Александровіч заўважыў, што «шкаляроў з імем Георгі, якія прыехалі з Беларусі і Літвы, вельмі многа»[30], а таксама, што «імя Георгі мелі не толькі праваслаўныя»[31]. Гэта дае поўнае права сцвярджаць даследчыку наступнае: «Калі б Скарына меў імя Георгі, то ніякай патрэбы яго мяняць на іншае не было. Значыцца, Францішак — імя яго ўласнае, з якім ён прыехаў з дому»[32].

У 1967 г., напярэдадні святкавання 450-гадовага юбілею беларускай кнігі, пытанне аб імені Скарыны спецыяльна разглядала бюро аддзялення грамадскіх навук

Акадэміі навук БССР. Бюро азнаёмілася з матывіроўкамі, звязанымі з імем Скарыны і прыняло рашэнне: поўны варыянт яго імені пісаць «Францыск (Георгій) Скарына», а кароткі —«Францыск Скарына»[33]. Было вырашана пакінуць «Георгій» у поўным варыянце імені першадрукара па той прычыне, што гэтым імем ён называецца ў многіх навуковых працах, напісаных у 30-я—50-я гады.

У Кракаўскім універсітэце у той час вывучалася сем «вызваленых» («свободных») навук — граматыка, рыторыка, логіка, «певница» («музыка»), арыфметыка, геаметрыя і звездочеть» (астраномія). Студэнты чыталі ўрыўкі з твораў антычных аўтараў — трактатаў Арыстоцеля ў сувязі з вывучэннем рыторыкі і логікі, працы рымскага гісторыка Салюсція, творы Вергілія і Сенекі, часта выступалі ў дыспутах, якія арганізоўвалі амаль штодзённа ў сценах універсітэта; у сувязі з вывучэннем астраноміі — займаліся складаннем календароў. Закончыў Кракаўскі універсітэт Скарына ў 1506 г. з навуковай ступенню бакалаўра філасофіі. Пасля гэтага звесткі аб ім губляюцца на шэсць гадоў.

Думка прысвяціць сваё жыццё кнігадрукаванню ў Скарыны магла ўзнікнуць у часе яго навучання ў Кракаўскім універсітэце: у Кракаве ўжо існавала друкарня, у якой Швайпольт Фіёль у 1491 г. упершыню надрукаваў кнігі на славянскай мове; акрамя таго, вядома, што кнігадрукарскай справе шмат увагі ўдзялялі відныя польскія вучоныя Міхаіл Врацілаўскі і Ян Глагоўскі, выкладчыкі філасофскага факультэта, на якім навучаўся Скарына. Цяжка, апрача таго, дапусціць, каб Скарына не пазнаёміўся з дзейнасцю пастаяннай друкарні, якая была заснавана ў Кракаве ў 1503 г. у доме Яна Галера. Знамянальна, што Кракаўскі універсітэт за дзесяць год да паступлення Скарыны скончыў вялікі польскі астраном Мікалай Капернік (1473—1543), выдатнейшы вучоны эпохі Адраджэння. У адзін год са Скарыной скончыў Кракаўскі універсітэт са ступенню магістра відны паэт-гума-

ніст Павел Русін з Кросна (памёр каля 1517 г.), які паходзіў з Украіны. Сам ён заўсёды настойліва падкрэсліваў сваё ўсходнеславянскае паходжанне, называў сябе Русінам. «Так называлі магістра Паўла і яго вучні»[34]. Пазней Павел Русін выкладаў у Кракаўскім універсітэце лацінскую літаратуру, асвятляў творчасць паэтаў Авідзія, Персія, Клаўдзіяна, Сенекі. Ён быў аўтарам многіх вершаў на лацінскай мове. Павел Русін з Кросна ведаў паэтыку Гарацыя, мову Цыцэрона. Пад яго ўплывам узнікла цэлая плеяда польска-лацінскіх паэтаў: Ян Дантышак. Ян з Вісліцы, Кжыштоф Сухцен і інш. Пазней гуманістычная дзейнасць Паўла Русіна з Кросна праходзіла ў Венгрыі, але «ён ніколі не губляў сувязі з кракаўскім гуманістычным асяроддзем, з кракаўскімі прафесарамі і выдаўцамі»[35]. Павел Русін пакінуў глыбокі след у польскай культуры Прадрэнесансу. Дакументальна нічога не вядома аб магчымых сувязях або хоць бы знаёмстве Паўла Русіна са Скарынай у часе навучання ў Кракаўскім універсітэце, але цяжка ўявіць, каб яны не сустракаліся; не выключана і магчымасць узаемнага добратворнага ўплыву гэтых двух людзей, меўшых агульныя інтарэсы (вядома не толькі педагагічная і літаратурная дзейнасць Паўла Русіна пасля сканчэння універсітэта, але і выдавецкая).

З дакументаў, якія захоўваюцца ў Падуанскім універсітэце (Італія) вядома, што к 1512 г. Ф. Скарына меў ступень доктара так званых «вызваленых» навук. Дакументальна не ўстаноўлена, дзе ён атрымаў гэтую ступень і дзе, каб атрымаць яе, вучыўся.

Заслугоўвае ўвагі меркаванне, якое выказвае па гэтаму пытанню С. Х. Александровіч на падставе грунтоўнага вывучэння архіваў Кракаўскага універсітэта і навуковай літаратуры па яго гісторыі: «Сярэдняя і вышэйшая адукацыя ў XV—XVI стагоддзях былі цесна звязаны між сабой», «ніякага водападзелу між імі не існавала. Інакш кажучы, універсітэт (акадэмія) — гэта была

адначасова і сярэдняя і вышэйшая школа. А першая навуковая ступень — бакалаўр свабодных навук — паводле сённяшняй тарыфікацыі ўсяго толькі сярэдняя адукацыя»[36]. Таму, скончыўшы Кракаўскі універсітэт з невысокай навуковай ступенню бакалаўра, Скарына мог у гэтай жа самай навучальнай установе, правучыўшыся яшчэ некалькі год і пасля адпаведных экзаменаў, атрымаць вышэйшую навуковую ступень доктара свабодных навук. С. Х. Александровіч выказвае думку аб тым, што па заканчэнні ў 1506 г. Кракаўскага універсітэта Скарына «застаўся вучыцца далей у Кракаве»[37]. Гэтая думка ўзнікла ў даследчыка з наступных меркаванняў: у 1506 г. Скарыне магло быць не больш 15—16 гадоў. «У такім узросце пакідаць знаёмы горад, дзе былі землякі, дзе можна было сустрэць на рынку полацкіх купцоў і праз іх пасланць вестку родным, а то і атрымаць дапамогу з дому, ён, відаць, не адважваўся. Апрача таго, у бакалаўра, які хацеў атрымаць вышэйшую навуковую ступень — доктара (магістра), былі пэўныя абавязкі перад універсітэтам: ён павінен быў на два гады стаць выкладчыкам, вучыць шкаляроў-навічкоў»[38]. Так, прэтэндэнты на ступень доктара навук, скончыўшыя Кракаўскі універсітэт са ступенню бакалаўра, павінны былі стажыравацца як выкладчыкі, а таксама прымаць «абавязковы чынны ўдзел у суботніх дыспутах»[39]. С. Х. Александровіч выказвае ўпаўне верагоднае меркаванне аб тым, што Скарына пасля 1508 г. мог атрымаць у Кракаўскім універсітэце навуковую ступень доктара свабодных навук.

У 1512 г. Скарына навучаўся ў Падуанскім універсітэце — адным з найбольш перадавых універсітэтаў тагачаснай Заходняй Еўропы, дзе шырока распаўсюджваліся ідэі гуманізму і глыбока вывучаліся медыцына, батаніка і астраномія.

Італія была краінай, якая дала пачатак Рэнесансу і стала яго цэнтрам. З Італіі ўплывы ідэй Адраджэння распаўсюджваліся на ўсе краіны Заходняй і Сярэдняй Еўро-

пы. У Італіі ідэі гэтага руху выявіліся з найбольшай паўнатой у многіх галінах навукі і мастацтва. Таму не дзіўна, што Італія прыцягвала да сябе людзей з усёй Еўропы, якія імкнуліся далучыцца да рэнесанснай культуры і адукаванасці. «Успомнім, колькі юнакоў у XVI ст. імкнулася ў Італію з розных краін — у тым ліку і славянскіх, каб прыпасці да крыніцы гуманістычнай адукаванасці»[40]. Таму не дзіўна, што іменна ў Італіі і ў яе самым перадавым універсітэце навучаліся многія адукаваныя людзі XV—XVI ст. У гэты час Падуанскі універсітэт быў адным са значных цэнтраў італьянскага гуманізму і асветніцтва.

Тут студэнты і некаторыя прафесары захапляліся ідэямі буйнага сярэдневяковага мысліцеля, выхадца з Іспаніі, Ібн-Рошда (1126—1198), вядомага пад латынізаваным імем Аверроэса, які развіваў матэрыялістычныя бакі вучэння Арыстоцеля і большасць сваіх прац прысвяціў каменціраванню твораў грэчаскага мысліцеля. Філасаф-матэрыяліст, ён прызнаваў вучэнне аб вечнасці матэрыі. Яго працы па філасофіі і медыцыне спрыялі развіццю матэрыялістычнай, антыцаркоўнай думкі. Матэрыялістычныя ідэі Ібн-Рошда распаўсюджваў сярод студэнтаў адзін з лепшых прафесараў Падуанскага універсітэта выдатны італьянскі філосаф эпохі Адраджэння П'етра Пампанаццы (1462—1524), які выкладаў філасофію ў Падуі, Феррары, Балоніі. Лекцыі яго давялося слухаць Мікалаю Каперніку, а магчыма і Скарыне. Перакананы матэрыяліст, Пампанаццы, папулярызуючы і развіваючы матэрыялістычныя бакі вучэння Арыстоцеля, прыходзіў да адмаўлення царкоўнага сцвярджэння аб бессмяротнасці душы, да атэістычных ідэй, якія былі прычынай праследвання прафесара з боку каталіцкага духавенства. Ясна, што ідэі найбольш перадавых прафесараў Падуанскага універсітэта і яго студэнтаў, будучых культурных дзеячоў розных краін Заходняй і Сярэдняй Еўропы, не маглі не зрабіць пэўнага ўплыву на фарміраванне света-

погляду першадрукара, хоць дакументальных доказаў гэтаму не захавалася.

Сярод прафесараў Падуанскага універсітэта ў той час, калі там знаходзіўся Скарына, было нямала прадстаўнікоў славянскага свету — дубраўнічан, чэхаў і палякаў. Зусім заканамерным было іх імкненне атрымаць высокую адукацыю іменна ў Падуанскім універсітэце. Тут атрымаў яе, у прыватнасці, вялікі польскі паэт эпохі Адраджэння Ян Каханоўскі.

Не ўстаноўлена, колькі часу знаходзіўся ў Падуі Скарына. Дакументы з універсітэцкіх архіваў сведчаць, што 5 лістапада 1512 г. у царкве святога Урбана сабралася Медыцынская калегія універсітэта для абмеркавання хадайніцтва Скарыны аб вызваленні яго ад платы за экзамены. Высокі водзыў аб ім як таленавітым маладым вучоным даў віцэ-прэзідэнт калегіі Фадзей Мусаці. Прадстаўляючы яго, Мусаці сказаў, што гэта надзвычай адукаваны і здольны, але бедны рускі юнак з Полацка — Францыск, сын памёршага Лукі Скарыны. Просьба была задаволена. Калегія ўлічыла, што Скарына быў вельмі бедны і прыбыў у Італію з незвычайна далёкіх краін.

У хуткім часе (першы раз 6, а другі — 9 лістапада) у палацы епіскапа Скарына на ўрачыстым пасяджэнні Медыцынскай калегіі універсітэта ў прысутнасці вікарыя біскупа Забарэлы двойчы падвяргаўся публічным экзаменам, у часе якіх бліскуча абараняў свае палажэнні, вытрымаў гэтыя экзамены. У выніку балаціроўкі, у якой удзельнічалі члены калегіі, яму было прысвоена званне «у лекарскіх навуках доктар». Тут жа Скарына быў уведзен у гэтае званне — доктар Барталамей Барызон усклаў на яго знакі вучонай ступені доктара навук. Цікава адзначыць, што на васемнаццаць гадоў раней (у 1494 г.) такое ж званне атрымаў Мікалай Капернік. Скарына быў першым выхадцам з усходніх славян, якія ў Італіі атрымалі вышэйшую навуковую ступень у медыцыне.

Нам вельмі мала вядома аб пазнейшых занятках Ска-

рыны медыцынай, хоць па ўсяму відаць, што сваім званнем доктара лекарскіх навук ён вельмі даражыў і ганарыўся і пазней у кожным сваім выданні адзначаў, што кнігу выпусціў «в лекарских науках доктор» «Францнск Скориннн, сын с Полоцка». І ўсё ж відаць таксама, што заняткі медыцынай не ўваходзілі ў яго жыццёвыя планы, і, атрымаўшы высокую навуковую ступень, Скарына рашыў прысвяціць сваё жыццё не медыцыне, а кнігадрукаванню і аддацца любімай справе — асветніцкай дзейнасці праз друкаванне і пашырэнне кніг на славянскай мове і на сваёй роднай — беларускай.

Цікава адзначыць, што з друкаванымі кнігамі і поспехамі ў кнігадрукарскай справе Скарына мог грунтоўна пазнаёміцца і ў Італіі (як раней — у Кракаве). Магчыма, яму давялося пабываць у Венецыі і пазнаёміцца з выданнямі Альда Мануцыя і з самім друкаром эпохі Адраджэння. Бадай што, нельга дапусціць, каб кнігі з яго друкарні «Новая Акадэмія» (так званыя «альдзіны»), якія па таму часу карысталіся заслужанай славай выдавецкага майстэрства, не былі знаёмы Скарыне. Гэта тым больш верагодна, што кнігі, надрукаваныя ім пазней у Празе і Вільні, як заўважана даследчыкамі, у многім (па знешняму выгляду, афармленню, фармату) нагадваюць венецыянскія выданні Альда Мануцыя.

Кнігадрукаванне ў гісторыі вялікіх вынаходстваў, якімі характарызуецца эпоха Адраджэння, адкрыла «найбольш бліскучую старонку»[41]. А патрэба на радзіме Скарыны ў друкаваных кнігах на славянскай і на роднай мове была вельмі вялікая — кніга ўжо рабілася магутным сродкам у антыфеадальнай барацьбе супраць каталіцкай рэакцыі.

Аб жыцці і дзейнасці Скарыны на працягу 1512—1517 гг. не захавалася дакументальных звестак. Але вя-

дома, што ўжо ў 1517 г. ён займаецца кнігадрукаваннем у Празе.

Відаць, не выпадкова месцам для кнігадрукарскай дзейнасці ён абраў сталіцу братняй славянскай Чэхіі. Справа ў тым, што на радзіме яго, у Беларусі, як і ва ўсім Вялікім княстве Літоўскім, яшчэ не былі падрыхтаваны ўмовы для кнігадрукавання. Таму ўпаўне слушна мяркуюць многія біёграфы Скарыны, што Прага прыцягвала энтузіяста друкарскай справы тым, што кнігадрукаванне там існавала за трыццаць гадоў (у 1487 г.) да выхаду першай скарынінскай кнігі, што ў Празе ўжо існавалі друкарні, якія мелі добрую традыцыю ў выданні кніг. У той час там працавалі вопытныя друкары Ян Камп, Павел Севярын, Ковач Мікулаш, Клаўдзіян Мікулаш, які быў не толькі выдатным дзеячом чэшскага кнігадрукавання, але адначасова перакладчыкам і пісьменнікам, аўтарам твораў «Правілы людскога жыцця», «Кніга аб горы і справядлівасці», «Байкі». Клаўдзіян Мікулаш у 1518 г. друкаваў філасофска-эпічныя творы і павучанні, а пазней удзельнічаў у складанні вялікай працы «Карта чэшскай зямлі». Відаць, не мог не прыцягваць у Празе беларускага паборніка асветы ў родным краі і той факт, што там былі пашыраны прагрэсіўныя для таго часу сацыяльна-палітычныя ідэі Яна Гуса, палымянага барацьбіта супраць каталіцкага цемрашальства. У выбары месца сваёй асветніцкай дзейнасці Скарына мог кіравацца і тым, што Прага была буйнейшым культурным цэнтрам славянства. Тут знаходзіўся універсітэт, адзін з самых старых у Еўропе, з вельмі багатай бібліятэкай. Нарэшце, немалаважнай з'яўляецца і такая акалічнасць, што ў Празе Ф. Скарына мог сустракацца і мець зносіны з адукаванымі землякамі, карыстацца іх падтрыманнем у сваёй справе[42].

Для таго каб распачаць друкарскую справу ў Празе, неабходна было правесці вялікую падрыхтоўчую работу — арганізаваць друкарню: набыць друкарскія станкі,

адліць арыгінальныя славянскія шрыфты, перакласці кнігі бібліі з царкоўнаславянскай на беларускую мову, стварыць гравюры для ілюстрацый.

6 жніўня 1517 г. (у 1967 г. грамадскасць Беларусі адзначала 450 гадоў гэтай выдатнай падзеі )у Празе Скарына выпускае першую сваю кнігу «Псалтыр» на старасла-вянскай мове. У прадмове да яе выдавец пісаў: «...Я, Францишек, Скарыннн сын з Полоцька, в лекарскых науках доктор, повелел есми Псалтырю тиснутн рускыми словамн а словенскым языком... к пожитку посполнтого доброго (г. зн., на карысць усяму добраму народу.— *Л. Ц.)* наболей с тое прнчины, нже мя милостивый бог с того языка на свет пустнл»[43]. Як бачым, Скарына выразна ўсведамляў карысць, якую павінна прынесці яго народу друкаваная кніга.

У чым жа ён бачыў карысць для народа кнігі «Псалтыр»? Вядома, што гэта адна з біблейскіх кніг, якая складаецца з псалмаў (малітваў) старажытнаяўрэйскага цара Давіда (ён і ў яўрэяў і ў хрысціян лічыўся святым). Многія яго псалмы былі глыбока лірычныя, і таму пісьменныя сучаснікі і папярэднікі Скарыны з захапленнем чыталі гэтую кнігу. Ф. Скарынай кіравала ідэя — даць народу займальнае чытанне, і ў першую чаргу — імкненне да распаўсюджвання адукаванасці і асветы ў родным краі, бо «Псалтыр» была адзінаю кнігай, па якой у той час (і ў папярэднія, і наступныя часы) на яго радзіме людзі навучаліся чытанню і грамаце. Гэта добра разумеў вучоны (магчыма, і нават хутчэй за ўсё, у Полацку ён сам атрымаў першапачатковую асвету па «Псалтыру») і аб гэтым ён гаворыць у прадмове да кнігі: «Псалтыр», дае «детям малым початок всякое доброе наукы, дорослым помножение в науце». І далей вучоны-гуманіст наступным чынам характарызуе «Псалтыр»: «Там ест наука всякое правды. Там мудрость и разум доскональный... добрые нравы якобы со источннка оттоле походять».

Скарына клапаціўся аб тым, каб кніга яго была добра зразумелай чытачам. Для гэтага на палях лістоў ён рабіў пераклад на сучасную беларускую мову і даваў тлумачэнне асобным царкоўнаславянскім словам, якія, на яго думку, маглі быць незразумелымі для простых, малаадукаваных людзей. На гэта выдавец у прадмове спецыяльна звяртае ўвагу чытача: «...иные слова, которын суть в Псалтыри нерозумнын (незразумелыя.— *Л. Ц.*) простым людем, найдуть ее на боцех рускнм языком что которое слово знаменуеть». Гэтыя пераклады асобных царкоўнаславянскіх слоў на беларускую «на боцех» (на палях.— *Л. Ц.*) магчыма разглядаць як першапачатковы выток беларускай лексікаграфіі, яе самы першы крок.

Відаць, што жывучы ў Празе, Скарына быў звязан са сваімі землякамі, віднымі грамадзянамі Вільні, сталіцы Вялікага княства Літоўскага, у склад якога ўваходзіла Беларусь, і нават карыстаўся іх матэрыяльнай падтрымкай. Гэта былі людзі, якія добра разумелі вялікае значэнне друкаванага слова і асветніцкай дзейнасці Скарыны для радзімы. Магчыма, што яны былі членамі віленскага брацтва. На сувязь Скарыны з імі ўказваюць надпісы ад рукі на некаторых экземплярах яго пражскіх выданняў. Так, на першым лісце экземпляра «Псалтыра» маецца такі характэрны надпіс, зроблены рукою: «А то ся стало накладомъ Богдана Онкова сына радцы места Виленскаго»

Услед за «Псалтыром», на працягу 1517—1519 гг., Скарына выдае асобнымі выпускамі ў перакладзе на блізкую да беларускай мовы свайго часу 23 кнігі «Біблії». На тытульным лісце першай кнігі быў такі загаловак: «Бнвлня руска выложена довторомъ Францнскомъ Скориною из славного града Полоцка, богу ко чтн н людем посполитымъ к доброму наученню». Даследчык П. В. Уладзіміраў даводзіць, што пры перакладзе Скарына карыстаўся стараславянскімі рукапіснымі кнігамі,

чэшскай бібліяй, выдадзенай у 1506 г. у Венецыі, а таксама кракаўскімі выданнямі Фіёля.

Перад тэкстам кожнай кнігі даюцца напісаныя самім Скарынай прадмовы (пад назвамі: «Предъсловие», «Предсловие», «Предословие», «Предмолва», «Сказание» і інш.) і пасля тэксту кнігі — пасляслоўі. Перад першай кнігай даецца прадмова «Во всю бивлню». Тэксты біблейскіх кніг праілюстраваны арыгінальнымі гравюрамі, у ліку якіх у трох кнігах знаходзім партрэт самога выдаўца. На партрэце — чалавек у доктарскай мантыі. Сядзіць ён, задумаўшыся, за маленькім столікам над раскрытаю кнігай з гусіным пяром у правай руцэ ў акружэнні розных прадметаў, якія сведчаць аб занятках вучонага медыцынай, астраноміяй і літаратурнай справай, на паліцах кнігі. Звяртае на сябе ўвагу, што сярод рэчаў, на фоне якіх ён намалёван, няма ніводнай, якая мела б адносіны да рэлігіі (напрыклад, іконы, крыжа, распяцця і г. д.). Гэта бадай што самы першы партрэт кнігавыдаўца, змешчаны ў выдадзенай ім кнізе, і адзіны ў духоўнай літаратуры. Апрача таго, на тытульных старонках кніг скарынінскай бібліі знаходзім малюнак, які даследчыкі лічаць «гербам», эмблемай кнігавыдаўца,— паўкруг сонца з месяцам.

У пасляслоўях Ф. Скарына расказвае аб тым, што тая ці іншая кніга выпушчана яго працай, выкладам (гэта значыць перакладам), загадам; аб сабе ён заўсёды паведамляе як аб ураджэнцу слаўнага горада Полацка; гаворыць аб месцы выдання — старажытным слаўным горадзе Празе і дакладна аб часе выхаду кнігі ў свет (год, месяц, чысло). Тое, што Ф. Скарына ў пасляслоўях часта зазначае, што кніга выдадзена яго «повеленнем», сведчыць, як відаць, аб тым, што сам ён не друкаваў (гэта рабілі друкары); ён жа займаўся літаратурнай дзейнасцю — пісаннем прадмоў, працай па перакладу біблейскіх кніг на родную мову.

Выключна скупыя звесткі з біяграфіі Скарыны, ад-

сутнасць сведчанняў сучаснікаў аб яго характары не даюць нам магчымасці ўявіць сабе вобраз гэтага буйнейшага дзеяча культуры старажытнай Беларусі як чалавека. Праўда, яго кнігі і творы (прадмовы і пасляслоўі да кніг) здольны да пэўнай ступені праліць святло і па характар гэтага чалавека — выдатнага гуманіста свайго часу, гарачага паборніка асветы для простага люду. Пры гэтым нельга не адзначыць, што многія прадмовы да скарынінскіх кніг — узор страснай публіцыстыкі аўтара і нярэдка — у поўным сэнсе слова — высокамастацкія творы свайго часу.

У прадмовах Скарына звычайна сцісла перадае ў даступнай для пісьменнага чалавека форме змест кніг «Бібліі», указвае на рэлігійнае, маральнае і адукацыйнае іх значэнне, выкладае свае навуковыя і грамадска-палітычныя погляды вучонага-гуманіста, выказвае клопаты аб асвеце «братии моей Русн», свае шырокія навуковыя інтарэсы, патрыятычныя пачуцці, гаворыць аб любві да роднай мовы, да радзімы. Прадмовы і пасляслоўі Скарыны — гэта цэлыя трактаты і страсныя апалогіі асветы, навукі, патрыятызму; у іх выказаны шчырыя і бескарысныя клопаты аб людзях паспалітых (гэта значыць, аб звычайным простым людзе), якія карысталіся рускай мовай (у той час мова беларускага насельніцтва называлася рускай). Скарына, як відаць з прадмоў, самаахвярна любіць навуку, асвету, непахісна верыць у сілу розуму чалавека, глыбока паважае простых людзей.

Выданне кніг «Бібліі» ва ўсведамленні Скарыны з'яўляецца працягам асветніцкай дзейнасці, якую ён распачаў выпускам «Псалтыра». Калі «Псалтыр» ён выдаваў, маючы на ўвазе яго практычнае значэнне першай кнігі, па якой дзеці навучаюцца чытанню і грамаце, то «Біблія»— гэта ўжо наступны крок у адукацыі. Гэта, на думку першадрукара,— невычэрпная крыніца мудрасці і самых разнастайных навуковых ведаў. Так, у прадмове да «Пятикнижия» Скарына гаворыць аб тым, што духа-

венства заяўляе аб недаступнасці для простых людзей біблейскіх кніг, бо ў іх, маўляў, запісаны таемныя, высокія боскія адкравенні. Скарына ж растлумачвае, што «Біблія» створана не богам, а людзьмі і што яна заключае ў сабе не толькі рэлігійныя палажэнні, але і шмат навуковых і практычных звестак, жыццёвую мудрасць, надзвычайна карысную для простага люду —«людей посполитых». Біблія, на думку Скарыны,— крыніца мудрасці і навукі, кніга, у якой маюцца «вси лекарства душные и телесные». Акрамя таго, ён лічыў, што кнігі бібліі па сваму зместу і мове ўпаўне даступныя і зразумелыя простым людзям. Аб гэтым ён пісаў у адной са сваіх прадмоў: «Понеже не только докторове, а люди вченые в них розумеют, но всякий человек простый и посполитый чтучи или слухаючи может порозумети». Вось чаму свае выданні Скарына адрасуе «людем посполитым Русского языка к пожитку» (гэта значыць, на карысць). У прадмове «в книгу Исуса Сирахова» выдавец пісаў: «И еликоі крат в ней будешн честн, по каждом чтенин нового нечто научишися чего жь есь пред тым не умел, вся бо Соломонова и Арнстотелева божественная и житейская мудрость в сей книзе краткыми словами замкнена ест». І далей у гэтай жа «предъмолве» гаворыцца: «Просто ж и я для похвалы божией и для посполитого доброго и розмножения мудрости, умения, опатренности (прадбачлівасці.— *Л. Ц.*), розуму и науки приложил есм працу выложитн кннгу сию на русский язык, елика бо прежде пнсана быша к нашему научению написана суть. Сия же книга сама нас добрых обычаев и дел научаеть более, нежели нные многые книгы. Просто же потребна ест ея всякому человеку чести». Так Скарына сам разумее і растлумачвае «людем посполитым» вялікае значэнне ў іх жыцці навукі. Ён неаднаразова падкрэслівае ў прадмовах, што выпускае свае кнігі «к научению людем посполитым русского языка» для пашырэння асветы ў родным краі, дзе жыве «братия моя русь». Маючы на ўвазе

выхаваўчыя і адукацыйныя мэты, Скарына выдаваў свае кнігі «ко розмножению добрых обычаев». Пад гэтымі добрымі «обычаями», або «нравами», Скарына разумеў імкненне чалавека да «мудрости, разума, умения». Наогул аб навуках, адукаваных людзях Скарына нязменна гаворыць з вялікай павагай.

Кнігі «Бібліі» ён разглядае як крыніцу сямі вызваленых (гэта значыць, свецкіх) навук: граматыкі, логікі, рыторыкі, музыкі, арыфметыкі, права і гісторыі. У прадмове «во всю бивлию рускаго языка» Скарына пісаў: «Хощешь ли умети граматику, или, по руски говорячи, грамоту, еже добре чести и мовити учить, знайдеши в зуполной Бивлии, Псалтыру, чти ее. Пак ли (калі.— *Л. Ц.*) ты ся любить разумети лоику... чти книгу светого Иова, или послание светого апостола Павла. Аше ли же помыслиши умети риторику, еже ест красномовность, чти книги Соломоновы... Восхошешь ли пак учитися музики, то ест певници, премножество стихов и песней светых по всей книзе сей знайдеши. Любо ли ест умети аритметику, еже во кратце, а неомылне считати учить, четвертыи книги Моисеевы часто чти. Пак ли же имаши пред очима науку геометрию еже по руски сказуется землемерение — чти книги Исуса Наувина. Ест ли астрономии или звездочети — найдеш на початку книги сее о сотворении солнеца и месеца и звезд, найдеш во Исусе Наувиие... Аще ли же кохание имаши ведати о военных а о богатырских делех, чти книги Судей или книги Махавеев; более и справедливее в них знайдеш, нежели во Александрии (сярэдневяковая аповесць пра Аляксандра Македонскага.— *Л. Ц.*) или во Тройи (сярэдневяковая аповесць пра Траянскае царства.— *Л. Ц.*). Пак ли же во кратце сведати хощеши много тысящей лет лѣтописець (гісторыя.— *Л. Ц.*), чти книги Паралипомена... Потребуеши ли науки и мудрости добрых мравов (гэта значыць, нораваў.— *Л. Ц.*), часто прочитай книги Исуса Сирахова, а притчи Соломоновы».

На кнігі «Бібліі» арыентаваў Скарына і таго чытача, які цікавіўся прыродазнаўчымі навукамі — батанікай, заалогіяй, аб чым, напрыклад, пісаў у прадмове «в притчи предмудраго Саломона»: «И учнннл (Саламон.— *Л. Ц.*) розмолвенне о прирожении древн былин, почен-ши от древ кедровых, еже ростуть на горе Ливанской, даже до травы нсопф, еже ростеть при муре. И мудре поведал теже о прнрожении зверей, птиць, гадов и риб, яко пишеть о том в третих кннгах Царств царей Израилевых».

Глыбокая павага да навук і страсная прапаганда свецкай адукацыі ў Скарыны спалучалася з глыбокай рэлігійнасцю. Цікава адзначыць, шго навуковае пазнанне, веды гуманіст лічыў мілай богу справай. У прадмове «в Притчн премудраго Саломона» Скарына пісаў: «Ест бо в сих прнтчах сокрита мудрость, якобы моць в драгом каменн, н яко злато в земли, и ядро у вореху. Кто не знайдеть, сей знайде мплость и достанеть благословение от господа, и приидеть к нему все доброе посполу с нею, хвала н честь безчнсленная моцию ея,— она убо ест матн всех добрых речей и учитель всякому доброму умению». Таму вучоны і загадаў «тиснутн» названую кнігу «напред ко чти п к похвале створителю, спасителю, утешителю богу... потом людем простым посполитым к пожнтку н ко размножению добрых обычаев».

Сёння для нас надзвычайна наіўнай здаецца думка Скарыны аб «Бібліі» як аб крыніцы свецкіх навук. Але мы павінны ўлічыць, што Скарына быў чалавекам таго часу, калі ў Беларусі чыста свецкіх кніг было вельмі мала. Таму прадмовы Скарыны да біблейскіх кніг і «Псалтыра» характарызуюць не толькі моцныя бакі яго светапогляду і дзейнасці, імкненне пашыраць асвету ў родным краі, але і слабыя (сумяшчэнне ў яго выказваннях элементаў гуманістычнага і сярэдневяковага светапогляду). Такое змяшэнне перадавых і кансерватыўных ідэй нельга лічыць нейкім выключным выпадкам. Так,

яно назіраецца і ў гуманістаў — сучаснікаў Скарыны: польскага паэта Паўла Русіна з Кросна, выдатнага далмацінскага паэта таго часу Маркі Маруліча (1450—1524)[44].

Пры ўсёй рэлігійнасці Скарыны даследчыкі заўважылі ў яго некаторых выказваннях пэўныя праявы «вольнадумства». Так, ужо само кнігадрукаванне ў яго час прадстаўнікі вышэйшага духавенства лічылі д'ябальскай справай. Вольнадумствам, з пункту погляду духавенства, было выданне кніг «Бібліі» не на стараславянскай (або лацінскай) мове, а ў перакладзе на нацыянальную. Духавенствам была ўзаконена і паслядоўнасць у размяшчэнні асобных кніг «Бібліі». Гэтай паслядоўнасці не прытрымліваўся Скарына. Яшчэ больш ерэтычнай яго дзёрзкасцю было тое, што ў сваіх выданнях ён «апускаў цэлыя раздзелы, рабіў іх перастаноўку па свайму меркаванню, уносіў свае ўстаўкі»[45]. Магчыма нават не ставячы перад сабою такой задачы, Скарына ў некаторых прадмовах усё ж зрываў арэол святасці з «Бібліі»: наперакор сцвярджэнню духавенства аб боскім паходжанні кніг бібліі растлумачваў чытачу аб тым, што іх пісалі людзі. Так, у прадмовах ён паведамляў аб тым, што некаторыя кнігі («Прытчы», «Еклесіяст» і «Песня песняў») напісаны царом Саламонам, другія («Эсфір») — па загаду цара, іншыя (кнігі «Царстваў», «Юдзіф», «Ездры», «Данііла прарока») — летапісцамі свайго часу, «Прамудрасць божая» — філосафам Філонам, які жыў у часы Егіпецкага цара Пталамея Філапатэра.

У Скарыны ідэі рэнесанснага гуманізму бралі верх над сярэдневяковай схаластыкай «Бібліі», на якую ён абапіраўся ў сваіх выказваннях аб культуры, навуках, асвеце. Усюды відаць пільныя клопаты гуманіста «о науце людей младых», а таксама «о науце всех людей» («Предословие доктора Францнска Скорины в кнНгу премудраго царя Саломона, рекомую Еклеснастес»). У кнігах «Бібліі» Скарына пільна шукае «премудрые речи»,

звяртае ўвагу чытача на старонкі, «нже пишуть о мудрости, о разуме и о науце» («Предословие доктора Франъциска Скорины с Полоцька в книги перъвыи Царств»). Вядома, што ў час, калі жыў і працаваў Скарына, царкоўна-рэлігійныя кнігі (асабліва «Біблія») карысталіся вялікім аўтарытэтам, а прагрэсіўныя ідэі часта выказваліся ў рэлігійнай абалонцы — для большай пераканаўчасці гэтых ідэй. Урэшце, успамінаючы зараз выказванні Скарыны аб біблейскіх кнігах як аб крыніцы свецкіх навук, мы павінны высока ацэньваць ужо самы факт пошукаў крыніцы свецкіх навук (хай сабе нават вельмі ненадзейнай, якой была «Біблія»), разумення неабходнасці асветы паспалітага (простага) люду. І нам дарага нават ужо тое, што Скарына імкнецца ў сваіх прадмовах і пасляслоўях вывесці малаадукаваных людзей па-за межы чыста рэлігійнага светапогляду і ставіць ужо самае пытанне аб адукацыі пры дапамозе свецкіх навук.

Ф. Скарына высока ацэньвае антычную навуку, культуру, філасофію. У сваіх прадмовах ён досыць часта спасылаецца на дзеячоў навукі, філасофіі антычнай старажытнасці і ніколі не абапіраецца на аўтарытэты багаслоўя —«айцоў» царквы. Пры гэтым Скарыну менш за ўсё цікавіла рэлігійная дагматыка. Таму не дзіўна, што кнігі Скарыны не карысталіся аўтарытэтам ні ў каталіцкага, ні ў праваслаўнага духавенства

З вялікай павагай гаворыць ён аб буйнейшых антычных філосафах, аб «Арестотелевой божественной и житейской мудростн» (у прадмове да кнігі Сіраха). У прадмове да «Кнігі Царств» ён разважае не толькі аб законах, нісаных біблейскімі царамі, але і аб законах, створаных у антычнай Эладзе — Салонам у афінян, Лікургам у спартанцаў, а таксама ў антычным Рыме — Нумай Пампіліем. У прадмове да «Книги Иуднф вдовици» Скарына расказвае аб старажытных Асірыйскім, Медскім і Перскім царствах, называе імёны цароў: Сарданапал, Валтызар, Дарый, Кір і інш. З захапленнем гаворыць ён

аб выдатным старажытнагрэчаскім вучоным II в. н. э. Пталамеі, працы якога давалі пачатак астраноміі, геаграфіі і іншым навукам. Гэты вучоны бачыў сэнс жыцця не «в царствах и в панованин», не «в богатстве и скарбах», а «в мудрости и науце», ён быў такі «милосник наукы и мудрости иже болеи избрал оставити в науце и в книгах вечиую славу и память свою, нежели во тленных царских сокровищах». З прадмоў Скарыны відаць, што яму былі добра вядомы творы антычиых пісьменнікаў і вучоных. Адчуваецца, што ён добра ведаў навуковыя, філасофскія і літаратурныя творы гуманістаў эпохі Адраджэння.

Ужо сам факт клопатаў Скарыны аб пашырэнні асветы на радзіме сведчыць аб глыбокім патрыятызме беларускага вучонага-першадрукара. Да гэтай дзейнасці на карысць найшырэйшых колаў простых людзей Скарыну пабуджалі высакародныя пачуцці гуманіста-патрыёта. Маючы шырокую адукацыю, Скарына мог бы працаваць і пажынаць славу буйнага вучонага ў любой краіне Заходняй Еўропы. Але любоў да роднага краю была прычынай бескарыснага служэння «людем посполитым рускаго языка». Патрыятызм Скарыны быў упаўне свядомы. У сваіх прадмовах аб сабе ён пісаў: «аз... нароженый в руском языку», сваю працу і ўсё жыццё ён прысвячае «братии моей Руси», «к доброму научению». Аб роднай мове ён гаворыць як аб прыроджанай. Заўсёды з вялікай любоўю піша аб сваім родным Полацку, у кожнай кнізе падкрэслівае, гаворачы аб сабе, што паходзіць «из славного града Полоцька».

У прадмове да «Книги Иудиф вдовици» Скарына ў вобразнай форме абасноўвае патрыятызм як неабходную якасць свядомага чалавека: «...понеже от прнрожения звери, ходящие в пустынн, знають ямы своя; птици, летаюшие по возъдуху, ведають гнезда свая; рибы, плываюшие по морю и в реках, чують виры своя; пчелы и тым подобная боронять ульев своих,— тако ж и люди, где

зродилися и ускормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имеють».

Вялікі гуманіст-патрыёт ставіць у прыклад людзям самаахвярны ўчынак гераіні біблейскай «Книги Иудиф вдовици» ў імя свайго народа. Таму выключна высока ацэньвае Скарына гэтую кнігу, у прадмове да якой ён пісаў, што гэта кніга раіцца «нести к нашему научеиию». На патрыятычны ўчынак Іўдзіфі як на прыклад паводзін Скарына ўказвае неаднаразова. У прадмове «во всю бивлию» ён пісаў: «Она же для высвобожения отчизны, взор на себе мужем даючи, не лютовала ест живота своего». Звяртае ўвагу чытача Скарына і на патрыятычныя ўчынкі іншых герояў біблейскіх легенд.

У некаторых прадмовах да біблейскіх кніг Скарына выказвае і свае грамадска-палітычныя погляды. Так, напрыклад, ён лічыць, што ие паходжаиие, а розум і дзейнасць на карысць народа павінны ўлічвацца пры ацэицы таго або іишага чалавека. Гуманіст марыць аб роўнасці людзей. У прадмове да кнігі «Втораго закону Моісеева» ён пісаў: «Ровная свобода всем, обшее имение все». Ён бачыў, што ў судзе панавалі беззаконие, самавольства, карыслівасць. Скарыиа выказваўся за тое, каб суддзі вырашалі справы справядліва, иезалежна ад сацыяльиага і маёмаснага стану людзей, якія шукаюць праўды, «не справовали суд их, як цари и властители, вышний силу имеюще над ними, но яко равний и товариши, раду им даючи и справедливость межи иными чинами» (з прадмовы да кнігі «Судей»).

Высока цаиіў Скарына мірныя ўзаемаадносіны паміж народамі. Так іудзейскага цара Саламона (услед за ўстаноўлеиай традыцыяй) гуманіст лічыў прамудрым: «Саломои еже ест мирный илн спокойный, понеже был мир и покой по вся времеиа царства его» («Предсловие в притчи премудраго Саломона, царя Израилева»).

Так у «Бібліі», самай аўтарытэтнай кнізе яго часу, Скарына шукае падмацаванне і абаснаванне сваім ас-

вєтніцкім і высакародным гуманістычным поглядам і перакананням.

Часам Скарына ў прадмовах змяшчае сілабічныя вершы, якія, як і тэксты прадмоў, складаў сам. Так, напрыклад, перад «Книгой Иова» змешчан чатырохрадковы верш, які канчаецца словамі: «Людем посполитым к доброму научению». У прадмове да кнігі «Исход» у вершаванай форме выкладаюцца так званыя дзесяць запаведзей. Пасля прадмовы да кнігі «Есфирь» змешчана выслоўе, пададзенае ў вершаванай форме:

Не копай под другом своим ямы,
Сам ввалишся в ню.
Не став, Аман, Мордохею шибенице,
Сам повиснеш на ней[46].

У спадчыне Скарыны ёсць толькі тры маленькія вершы. Праўда, яны не стварылі вершаванай традыцыі, выступаюць як «адасоблены факт у гісторыі беларускай і тым больш усходнеславянскай літаратуры»[47]. Даследчыкі адзначаюць галоўным чынам гісторыка-літаратурнае значэнне вершаў Скарыны як першага факта беларускага і наогул усходнеславянскага вершаскладання.

Заўважаецца, што ў некаторых вершах (напрыклад, у сваім вольным выкладанні адной з асноў «Бібліі»— дзесяці запаведзей) Скарына не столькі падкрэслівае рэлігійны бок таго або іншага палажэння, аб якім ідзе гутарка, колькі маральны, напрыклад «Не вкради что дружнего», «Не забивай ни едина» і інш.

Скарынінская «Біблія» добра і багата ілюстравана. Выдавец імкнуўся праз ілюстрацыі зрабіць змест сваіх кніг як мага больш зразумелым чытачу — простаму чалавеку. Наяўнасць ілюстрацый сам Скарына тлумачыць так: «Абы братия моя Русь люди посполитые чтучи могли ясней разумети». Нягледзячы на тое, што ў гэтых ілюстрацыях раскрываюцца, галоўным чынам, біблейскія сюжэты, мы бачым вобразы людзей і абстаноўку, блізкія

да тых, якія мог назіраць Скарына. Гэта звычайныя сяляне або гараджане, без усякага адцэння святасці, характэрнага для вобразаў людзей у ілюстрацыях да біблейскіх кніг іншых выдаўцоў. Абстаноўка, на фоне якой паказаны персанажы скарынінскіх гравюр,— самая звычайная, жыццёвая, часам гэта будзёная праца на полі.

Культурна-асветнае значэнне «Псалтыра» і надрукаваных у Празе Скарынай кніг «Бібліі», як і ўсёй яго выдавецкай дзейнасці з яе выразна патрыятычнай накіраванасцю, вельмі вялікае. Кнігі «Бібліі»— гэта першыя кнігі, надрукаваныя на мове, блізкай да тагачаснай беларускай. Гэты факт ужо сам па сабе сведчыць аб тым, што «Біблію» Скарына выдаваў яўна не для патрэб царквы, якая прытрымлівалася выключна старaславянскай мовы; кнігі ж на мове, блізкай да звычайнай народнай, для царкоўнага ўжывання не маглі быць прымальнымі. Гэта добра разумеў сам Скарына і адрасаваў свае выданні «люду паспалітаму», «брацii маёй Русі».

У 1519 г. кнігавыдавецкая справа Скарыны ў Празе спыняецца. Аб яго жыцці на працягу наступных трох год мы не маем звестак.

Скарына пакідае Прагу. Прычыны, якія вымусілі яго на гэта, нам не вядомы. У 1522 г. ён ужо ў Вільні, сталіцы Вялікага княства Літоўскага, у складзе якога ў той час знаходзілася Белая Русь. Скарына разгортвае сваю далейшую дзейнасць па выпуску кніг. Вільня у той час была буйнейшым культурным і палітычным цэнтрам краю. Вось як аб гэтым піша П. В. Уладзіміраў: «У пачатку XVI ст. у Вільні былі ўжо каталіцкія школы з пэўным колам выкладання, былі дактары медыцыны і аптэкі. Чужаземцы, пераважна немцы, займалі цэлую вуліцу, якая насіла назву «Нямецкай»... палацы вялікага

князя ў Вільні... цудоўныя. Тут знаходзілася бібліятэка Сігізмунда І. Вільня як сталіца Вялікага князя Літоўскага знаходзілася ў сталых зносінах з Кракавам — сталіцай Польшчы... Магістры і дактары кракаўскага універсітэта з'яўляліся ў Літве і ў Вільні ў якасці канонікаў і пастаўнікаў»[48].

З Вільняй Скарына быў звязан яшчэ ў пражскі перыяд свайго жыцця і дзейнасці. Уплывовыя віленчане, якія стаялі на чале кіраўніцтва горада (напрыклад, Багдан Онкаў, радца места Віленскага), аказвалі дапамогу Скарыне яшчэ пры выданні «Псалтыра». Біёграфы адзначаюць, што Скарына меў патрэбу не толькі ў грашовай дапамозе. Для перакладаў і выданняў кніг «Бібліі» яму, бясспрэчна, патрэбна была вялікая колькасць царкоўнаславяпскіх рукапісаў. Здабыць іх яму маглі землякі-віленчане.

У сярэдзіне 1522 г. у Вільні выходзіць «Малая падарожная кніжыца», а ў сакавіку 1525 г.—«Апостал». Віленскія выданні Скарыны былі першымі надрукаванымі на тэрыторыі СССР кнігамі. Некаторыя біёграфы Скарыны выказваюць досыць слушную думку, што пры пераездзе з Прагі ў Вільню Скарына перавёз з сабою друкарню — шрыфты і станок. Верагодна таксама меркаванне, што ў Вільню Скарына пераехаў не ў 1522 г., калі ўжо ўбачыла свет яго першае віленскае выданне, а раней (магчыма, нават значна раней): для выпуску кніг неабходна было стварыць друкарню, што патрабавала шмат часу (асабліва, калі ўлічыць, што да гэтага ў Вільні кнігавыдавецкай традыцыі зусім не было, не было, магчыма, і людзей, якія б ведалі друкарскую справу). Мабыць, майстроў-друкароў Скарына прывёз з Прагі. Урэшце, зусім дапусціма меркаваць, што абсталяванне друкарні (у тым ліку шрыфты і станок) маглі быць зроблены і ў Вільні — пры назіранні самога Скарыны,— у сталіцы Вялікага княства Літоўскага было нямала таленавітых майстроў-рамеснікаў. Друкарню ён арганізаваў, як сцвяр-

джае сам, у «дому почтивого мужа Якуба Бабіча, найстаршего бурмистра славного и великоґо места Виленского». Кнігавыдавецкая дзейнасць Скарыны ў Вільні, як і раней у Празе, праходзіла пад знакам патрыятычнага служэння выдатнага гуманіста сваёй радзіме, пашырэння ў асяроддзі простых людзей асветы праз кнігі.

«Малая падарожная кніжыца» па характару свайго зместу адрозніваецца ад усіх папярэдніх і наступных выданняў Скарыны. Як на гэта ўказвае загаловак, прызначана яна для людзей (галоўным чынам, для гараджан — купцоў), якія часта знаходзяцца ў падарожжах. Гэта зборнік розных матэрыялаў духоўнага зместу, якія падарожнік мог чытаць у часы прыпынкаў, малітваў, розных жыццёвых парад і звестак. Такім чынам, змест кнігі ўказвае на тое, што, ствараючы яе, выдавец яўна арыентаваўся не на патрэбы царквы, а на пісьменных свецкіх «людзей паспалітых» свайго часу. Скарыне давялося прарабіць вялікую работу па складанию самой кнігі, па падбору каментарыяў, розных парад і ўказанняў.

У канцы кнігі надрукаван яе змест пад загалоўкам «Писаныи речи». Тут пералічваюцца раздзелы: «Псалтыр», «Часасловец», «Акафісты», «Каноны», пасля чаго ідзе «Шестодневець краткий на всу неделю». Потым змешчаны так званыя святцы, якія даюць звесткі, напрыклад, аб тым, «колико которые дни в году, или ноши держать часов и дробных (мінут.— *Л. Ц.*), и яко година прибудеть которому дню или нощи, все написано есть... К тому есть личбы которого году была гибель месецева, или затмение солнъцево, то при паскали знайдеш, того ж году, месяц, день, и годину неомылно написану тое гибели месецевы, или затмения солнцева». Такім чынам, даюцца тут некаторыя астранамічныя звесткі.

На адваротным баку загалоўнага ліста «Псалтыра» змешчана «Предъсловие во Псалтырь», дзе выдавец-аўтар падкрэслівае, што кнiга ім выпушчана ў свет на рускай мове «к пожитку посполитого доброго с тое причи-

ны, иже мя милостнвый бог с того языка на свет пустил». На-ранейшаму Скарына лічыць, што «Псалтыр» вельмі карысная кніга для чытання і навучання грамаце. Таму ў канцы прадмовы да яе сказана: «И видечи таковые пожитки в так малой книзе я Францишек Скоринин сын с Полоцка града, в лекарских науках доктор, повелел есми Псалтырю тиснути рускими словами».

Адна з найбольш цікавых частак «Малой падарожнай кніжыцы» называецца «Сборник», дзе падаюцца досыць падрабязныя звесткі з календара, якія рэдка сустракаюцца ў аналагічных заходнееўрапейскіх выданнях. Тут Скарына поруч з агульнапрынятымі ўжывае славянскія назвы месяцаў: «генуарь зовемы стычень», «февраль рекомы люты», «априль зовемы кветень», «июнь рекомы чирвец», «септеврий зовемы вресень», «ноемврий же есть груденъ» і г. д. Паведамляецца, колькі дзён у кожным месяцы, даўжыня дня і ночы, напрыклад: 17 ліпеня «день нмать годин 17, а нош 8».

«Апостал»— адна з найбольш ужывальных царкоўна-рэлігійных кніг. Надрукаваная на стараславянскай мове, яна карысталася вялікім попытам. Яе выпуск быў лагічным і заканамерным працягам справы выдання біблейскіх кніг, распачатай Скарынам яшчэ ў Празе. У тэхнічных адносінах «Апостал» быў выдадзен на значна больш высокім узроўні ў параўнанні з найлепшымі сучаснымі яму заходнееўрапейскімі ўзорамі друкарскай справы. Кніга з густам аздоблена значнай колькасцю заставак і «буквіц»— вялікіх літар, якія ўяўлялі з сябе маленькія, па-мастацку выкананыя гравюры. Афармленне віленскіх выданняў Скарыны, як і пражскіх,— гуманістычнае па свайму зместу: у мініяцюрах адлюстраваны вобразы чалавека і прыроды. Скарынінскія застаўкі працягваюць традыцыю выканання заставак у рускіх і беларускіх рукапісных кнігах, нягледзячы на тое, што Скарыне, бясспрэчна, былі добра вядомы традыцыі ў гэтай справе заходнееўрапейскіх выдаўцоў.

Перад кожным раздзелам «Апостала» ў прадмовах (тут яны найчасцей называюцца «сказаннямі») пададзены ўступныя растлумачэнні. Гэта своеасаблівыя каментарыі, якія іншы раз падобны да невялікіх (ад адной да шасці старонак) уступных артыкулаў. У некаторых з іх даюцца геаграфічныя даведкі аб месцах, якія ўпамінаюцца ў тых або іншых раздзелах, напрыклад, аб Карынфе, аб востраве Крыце. Пасля асноўных раздзелаў у кнізе ідзе пасляслоўе, дата яе выпуску, паведамленне аб выдаўцу і аб мэце выдання: «Лета... тысещнага, пятьсотаго, и двадесять пятага, месеца марта... Во славном месте Внленском выложена, и вытнснена. Працею и великою пилъностью. Доктора Францнска с Полоцка... И людем посполнтым к доброму научению». Канчаецца выданне «Месяцесловом» (або «Соборннком») са снецыяльнай «прадмовай», у якой даюцца парады для карыстання кнігай. У канцы — заўвага аб месцы выдання: у доме пачцівага мужа, найстаршага бурмістра Віленскага Якуба Бабіча. «Месяцеслов» сапраўды свецкі твор. У адной з заўваг да гэтай кнігі гаворыцца, што звесткі, якія даюцца ў ёй, «собраны во едино место. Доктором Франциском Скориною, нз града Полоцька». Высокую ацэнку мастацкага афармлення «Апостала» даў вядомы рускі мастацтвазнаўства У. В. Стасаў. Ён пісаў: «У «Апостале» 1525 г. загаловачныя літары, герб Скарыны і манаграма з літарай Т выпаўнены так далікатна, так топка, з такім здзіўляючым густам, што перасягаюць усё награвіраванае ў такім родзе ў «Бібліі»[49].

Звяртае на сябе ўвагу тая акалічнасць, што некаторыя біблейскія кнігі Скарына друкаваў на царкоўнаславянскай мове, без перакладу на тагачасную беларускую («Псалтыр», 1517 г.; «Апостал» 1525 г.), іншыя ж (пражскае выданне дваццаці дзвюх кніг «Бібліі» так званага «Старога запавету» 1517—1519 гг.) ён выдаў на мове, блізкай да тагачаснай беларускай. Паўстае пытанне — чым кіраваўся беларускі першадрукар пры выбары біб-

лейскіх кніг, якія, на яго думку, варта было перакладаць на яго родную мову?

Справа ў тым, што біблейскія кнігі, выдадзеныя Скарынай у Празе ў перакладзе на мову, блізкую да тагачаснай беларускай, непасрэдна не выкарыстоўваліся ў часе хрысціянскага богаслужэння ў царкве. Кнігі «Старога запавету» сучаснікамі Скарыны выкарыстоўваліся толькі для дамашняга чытання. Выключэнне склаў «Псалтыр»— кніга, якая ў выбраных мясцінах чыталася ў час богаслужэння (некаторыя псалмы нават спявалі ў царкве вернюючыя або хор). У храмах чыталіся толькі біблейскія кнігі так званага «Новага запавету»—«Евангелле» і «Апостал». Гэтым, магчыма, тлумачыцца прычына, з-за якой Скарына не перакладаў іх на родную мову.

Паслядоўнік і прадаўжальнік яго кнігадрукарскай дзейнасці Васіль Цяпінскі ў пачатку 70-х гадоў XVI ст. надрукаваў пераклад на беларускую мову «Евангелля» (дата выдання невядома). Факт надрукавання «Евангелля» (самай важнай кнігі «Новага запавету») на роднай мове ў дадзеным выпадку растлумачыць няцяжка — па сваіх рэлігійных пераканаяннях Цяпінскі быў спачатку кальвіністам, а потым — сацыніянінам. Ні кальвіністы, ні сацыніяне богаслужэння не прызнавалі і не праводзілі. Таму «Евангелле» ў прадстанікоў пратэстантызму выкарыстоўвалася толькі як кніга для чытання, і пераклад яе на тагачасную беларускую мову Цяпінскі лічыў карысным для асветы простых людзей (урэшце, ён, магчыма, улічваў, што біблейскія кнігі «Старога запавету» за некалькі дзесяцігоддзяў да яго ўжо былі перакладзены Скарынай на блізкую да беларускай мовы).

Мастацкае афармленне «Малой падарожнай кніжыцы» і «Апостала», асабліва першай, зроблена з вялікім густам. Звяртаюць асаблівую ўвагу застаўкі і цудоўныя мініяцюры — загалоўныя літары. Застаўкі і загалоўныя літары скарынінскіх кніг спрыялі далейшаму развіццю кніжнай графікі. Шрыфт «Малой падарожнай кніжыцы»

хоць і дробны (у сувязі з малым фарматам выдання), але вельмі чоткі. Вось чаму даследчыкі адзначаюць, што па тэхнічнаму і мастацкаму афармленню (шрыфты, застаўкі, канцоўкі, гравюры-ілюстрацыі) кнігі Скарыны ў першай палавіне XVI ст. вылучаюцца як найбольш дасканалыя. Іх бралі за ўзор, як адзначыў П. В. Уладзіміраў, выдаўцы не толькі ў Вялікім княстве Літоўскім, але і за мяжой, напрыклад у Германіі.

Глыбока вывучыўшы паліграфічнае выкананне выданняў Скарыны, П. В. Уладзіміраў прыйшоў да наступнага вываду: «Кнігі Скарыны ў друкарскіх адносінах далёка пераўзыходзяць не толькі папярэднія царкоўнаславянскія выданні, але і нават сучасныя Скарыне венецыянскія»[50].

Агульным для віленскіх і пражскіх выданняў з'яўляецца раздрабленне адной і той жа кнігі на некалькі асобных выпускаў: «Апостал» складаецца з чатырох кніжак з асобнай нумарацыяй, а «Малая падарожная кніжыца»— больш як з 25-ці. Фармат пражскіх і віленскіх кніг аднолькавы — у адну чвэрць ліста. Фармат гэты невялікі і, як мяркуе П. В. Уладзіміраў, быў зручны для Скарыны, друкаваўшага свае выданні асобнымі выпускамі.

Амаль да самага апошняга часу дата выхаду ў свет «Малой падарожнай кніжіцы» была невядомай. Большасць даследчыкаў схілялася да думкі аб тым, што яна вышла пасля «Апостала»—у 1525 г., а то і пазней, і лічылася апошнім віленскім выданнем Скарыны. Справа ў тым, што «Малая падарожная кніжыца» даследчыкам вядома была да 1972 г. не ў поўным сваім выглядзе. Так, у іх распараджэнні мелася толькі першая яе частка, якая называлася «Пасхаліяй». Гэтая ж частка кнігі магла навесці даследчыкаў на дату яе выхаду ў свет. Але вось даследчыку старажытнай беларускай літаратуры А. Ф. Коршунаву ўдалося напасці на след невядомага да гэтага часу унікальнага экземпляра «Малой падарожнай кніжыцы» з поўным тэкстам «Пасхаліі». Экземпляр гэты

шахоўваецца ў Дацкай каралеўскай бібліятэцы ў Капенгагене.

«Пасхалія»— гэта царкоўны каляндар, у якім указваюцца дакладныя даты (месяц і чысло) хрысціянскага свята вялікадня (або «пасхі») на цэлы шэраг гадоў наперад (справа ў тым, што святкаванне вялікадня ў хрысціян не мае пэўнай даты, і кожны год дата бывае іншая ў параўнанні з папярэдняй). Скарынінская «Пасхалія», як частка «Малой падарожнай кніжыцы», змяшчае ў сабе даты святкавання вялікадня на працягу дваццаці год (з 1523 па 1543).

А. Ф. Коршунаў звярнуў увагу на тую акалічнасць, што ў першай кнізе змешчана дата святкавання вялікадня ў 1523 г. З гэтай акалічнасці даследчык робіць наступны, як відаць, беспамылковы вывад: «Узяўшы пад увагу, што «Пасхалія» пачынаецца каляндарнымі звесткамі на пачатак 1523 г. (паводле сучаснага летазлічэння гэта прыпадае на канец 1522 г.), можна ўпэўнена і дакладна канстатаваць, што «Малая падарожная кніжыца» папярэднічала выданню «Апостала» і была надрукавана недзе ў сярэдзіне 1522 г. Каб «Малая падарожная кніжыца» была выдадзена ў 1521 г., то Скарына падаў бы ў ёй каляндарныя звесткі на 1522 г.»[51]. Так высветлілася адна з многіх «белых плям» у дзейнасці Ф. Скарыны.

З біяграфічных фактаў, якія адносяцца да часу пражывання Скарыны ў Вільні, вядома, што (як мяркуюць некаторыя даследчыкі) паміж 1525 і прыблізна 1529 гадамі (дакладна дата невядома) Скарына ажаніўся на Маргарыце, удаве радцы Віленскага Юрыя Адверніка. У Літоўскай метрыцы за 1529 г. запісана, што сваякі Юрыя Адверніка вялі судовую справу са Скарынай за спадчыну — дом у Вільні, які належаў калісь Адверніку, а пасля яго смерці — удаве Маргарыце. Скарына выйграў справу. Паводле пастановы вышэйшага суда «тот дом и иное нмене» прысуджаны «жане доктора Фран-

цышъка Скарыны Маркгорете держати и вжнвати на вечные часы»; на гэта «есмо доктору Францысшъку н его жоне Маркгорете дали ее наш лист с нашею печатью»[52].

У віленскі перыяд жыцця і працы Скарыне даводзілася неаднойчы перажываць цяжкія жыццёвыя выпрабаванні. Так, у адным з архіўных дакументаў 1532 г. гаворыцца аб канфіскацыі маёмасці кнігавыдаўца. У 1535 г. ён быў уцягнут віленскім мешчанінам Пятром Сакалоўскім у судовую справу аб доўгу памёршага брата Скарыны Івана ў 22 капы грошай (сума значная): у бацькавай спадчыне, якой карыстаўся Іван, нейкая частка належала і Францыску. Гэта судовая справа, як адзначае П. В. Уладзіміраў, нарабіла «шмат турбот доктару Скарыне»[53].

Мы не маем дакументальных звестак аб прычынах спынення Скарынай кнігавыдавецкай справы ў Вільні (як і раней у Празе). Але даследчыкі, відаць, не беспадстаўна ставяць гэты факт у сувязь з цяжкімі судовымі справамі, якія давялося весці Скарыне, а таксама з вялікім пажарам, які адбыўся ў Вільні летам 1530 г. і знішчыў дзве трэці горада; у часе пажару, магчыма, згарэў і дом Якуба-Бабіча, у якім змяшчалася віленская друкарня Скарыны. А новую з-за матэрыяльных цяжкасцей стварыць ён не змог.

У пачатку мая 1530 г. прускі герцаг Альбрэхт прыслаў віленскаму ваяводзе Гаштольду ліст, у якім высока адзываўся аб вучонасці Скарыны, называў яго «мужам непараўнальнага розуму, найвучонейшым доктарам мастацтваў і медыцыны», запрашаў яго да сябе на службу і прасіў Гаштольда, каб той адпусціў Скарыну да яго ў Кенігсберг.

Герцаг Прусіі Альбрэхт Брандэнбургскі (1490—1568) далучыўся да лютэранскай рэфармацыі і парваў з папскім Рымам. Але ён ставіў перад сабой мэту — падпарадкаваць рэлігійнаму (а пасля і палітычнаму) уплы-

ну Прусіі суседнія землі, у тым ліку Беларусі і Літвы. Відаць, імкненне герцага да пашырэння ідэй рэфармацыі і было прычынай для арганізацыі ў Кенігсбергу кнігадрукарскай справы, для чаго, як можна меркаваць, герцаг і запрасіў Скарыну да сябе на службу.

Скарына выязджае ў рэзідэнцыю герцага ў Кенігсберг. На службе ў Альбрэхта ён прабыў вельмі нядоўга. У хуткім часе па невядомых нам прычынах ён выязджае з Кенігсберга, маючы пры сабе ахоўную грамату герцага. Але ўслед за ім у Вільню ідзе ліст-скарга ўзлаванага Альбрэхта Гаштольду ад 26 мая 1530 г., у якім гаворыцца, што Скарына ўчыніў герцагу вялікую шкоду не толькі тым, што пакінуў яго, але і тым, што звёз з сабою з Кенігсберга прыдворнага герцагскага лекара і друкара. Альбрэхт патрабаваў ад Гаштольда вярнуць іх у Кенігсберг.

Вядома яшчэ, што з 1532 па 1535 г. Скарына працаваў лекарам і сакратаром каталіцкага епіскапа ў Вільні.

Аб далейшай кнігавыдавецкай дзейнасці Скарыны мы нічога не ведаем. Магчыма, што на выпуску «Апостала», яна і скончылася, хоць планы на далейшае яе разгортванне ў Скарыны маглі быць, аб чым сведчыць, напрыклад, той факт, што ён выехаў з Кенігсберга разам з герцагскім друкаром.

Апошнія гады жыцця Скарыны прайшлі ў Празе. Ён займаў пасаду садоўніка-батаніка ў Пражскім каралеўскім батанічным садзе. Батаніка ўваходзіла ў курс навук медыцынскага факультэта Падуанскага універсітэта, дзе Скарына атрымаў вышэйшую навуковую ступень.

Вывучэнне дакумента, знойдзенага ў пражскім архіве, прывяло даследчыкаў да вываду, што ў Прагу Скарына пераехаў з Вільні пасля 1535 г. Дакумент гэты — адкрыты ліст, які выдала чэшская каралеўская канцылярыя 29 студзеня 1552 г. сыну Скарыны — Сімеону Русу. Гэты ліст даваў яму права на маёмасць памёршага бацькі каралеўскага садоўніка доктара Францішка

Руса Скарыны з Полацка. Таму можна думаць, што памёр Ф. Скарына ў Празе ў канцы 1551 г.

Кнігадрукаванне на блізкай да тагачаснай беларускай, на старaславянскай мовах было сапраўдным жыццёвым подзвігам Скарыны, яго вялікай патрыятычнай справай, выключна прагрэсіўнай. Веды, атрыманыя ва універсітэтах Польшчы і Італіі, ён імкнуўся праз кнігі перадаць свайму народу. Самі кнігі Скарыны падрывалі манаполію царквы на асвету і былі пачаткам моцна адчувальнага культурнага ўздыму ў Беларусі. Друкарская дзейнасць выдатнага сына Беларусі мела вялікае гістарычна-культурнае значэнне не толькі для яго радзімы, але і для ўсяго славянскага свету. З ліку надрукаваных на славянскіх мовах, «Біблія» Скарыны была другой пасля чэшскай. Вялікае значэнне яго дзейнасці і ў справе фарміравання беларускай літаратурнай мовы, хоць поўнасцю на яе Скарына не пераходзіў і нярэдка карыстаўся старaславянскімі словамі. Кнігі яго распаўсюджваліся ў Беларусі, на Украіне, у паўднёваславянскіх краінах, Маскоўскай Русі, Заходняй Еўропе. Так, аб распаўсюджанні скарынінскіх выданняў у асабістых бібліятэках на тэрыторыі Беларусі сведчыць завяшчанне Гурына Федаровіча, берасцейскага мешчаніна (1624), у якім гаворыцца «Грнцку Фесеви Апостол друку Скоринина» і «Апостол друку Скоринина — Грнцку Поповнчу». На адным экземпляры скарынінскай «Бібліі», завезеным у час вайны 1654—1661 гг. на тэрыторыю Расіі, маецца надпіс: «Сия книга Алексеева дому Петровича Гладкова, а взята сия книга в Литовской земле в Гродне».

Выданні Скарыны зрабілі вялікі ўплыў на далейшы лёс кнігадрукавання ў Беларусі. Многія віленскія выданні XVI і XVII ст. паўтаралі яго мастацкае афармленне — застаўкі і гравюры, а таксама шрыфты. Параўноўваючы паліграфічнае выкананне кніг Скарыны і маскоўскіх першадрукароў Івана Фёдарава і Пятра Мсціслаўца, некаторыя даследчыкі прыйшлі да пераканання,

што апошнім не маглі не быць знаёмы выданні Скарыны і што маскоўскія першадрукары былі пад пэўным уплывам гэтых выданняў. Некаторыя даследчыкі выказваюць меркаванне аб тым, што Пётр Мсціславец яшчэ да знаёмства з Іванам Фёдаравым вучыўся кнігавыдавецкай справе ў Скарыны (праўда, дакументальнага пацвярджэння гэтаму меркаванню няма). Маюцца звесткі аб тым, што друкаваныя кнігі Скарыны перапісваліся ад рукі на Украіне і ў іншых месцах.

Прадаўжальнікамі друкарскай справы Скарыны ў Беларусі былі Сымон Будны, Васіль Цяпінскі, Пётр Мсціславец, браты Кузьма і Лукаш Мамонічы. Сымон Будны ў прадмове да свайго нясвіжскага выдання «Катэхізіса» (1562) нават карыстаўся запазычанымі ў скарынінскіх прадмовах і пасляслоўях моўнымі зваротамі, напрыклад: «Докона на е сиа кнмга... посполитым людем языка руского к наказанью и доброму наученью»; яна прызначана «для простых людей языка руского».



З канца XV і ў XVI ст. у культурным жыцці Беларусі назіраюцца важныя зрухі, звязаныя з пашырэннем ідэй, уласцівых культуры і літаратуры агульнаеўрапейскага Рэнесансу. Гэта, у першую чаргу, працэс фарміравання беларускай народнасці і нацыянальнай беларускай літаратурнай мовы, досыць шырокае для свайго часу развіццё свецкай літаратуры (побач з царкоўна-рэлігійнаи), узнікненне кнігадрукавання. Адгалоскі рэнесанснага гуманізму і гуманістычных ідэй даходзілі ў Беларусь і раней, да таго, як на яе культурную арэну выступіў такі ярка выражаны дзеяч эпохі Рэнесансу, як Скарына.

Дайшоўшыя да нас узоры старажытнай беларускай літаратуры XVI і нават сярэдзіны XVII ст. у значнай меры вызначаюцца яшчэ сярэдневяковым характарам, хоць і ствараліся на мове, блізкай да народнай. Мы тут маем

на ўвазе пісьменную царкоўна-рэлігійную літаратуру, звязаную з Рэфармацыяй. Але ўжо з паловы XVI ст. і нават раней узнікае значная колькасць літаратурных твораў свецкага характару або такіх, у якіх адбілася адначасова і рэлігійныя, і свецкая ідэалогія іх аўтараў.

«Характэрныя асаблівасці Адраджэння — свецкая культура, якая абапіраецца на антычныя ўзоры, індывідуалізм, развіты новымі ўмовамі гарадскога жыцця, мараль, якая прапагандуе гармонію паміж духоўным і цялесным, мастацтва, адлюстроўваючае жыццё ва ўсёй яго паўнаце, навука, заснаваная на доследах і вывадах розуму, нарэшце, нястомная цікаўнасць чалавека новага складу, які імкнецца спазнаць найаддаленыя краіны»[54].

Мы не можам гаварыць аб росквіце ў Беларусі рэнесанснай культуры — навукі і мастацтва. Гэтаму перашкаджаў яе незвычайна цяжкі гістарычны лёс. Але ж мы маем усе падставы гаварыць аб вельмі прыкметных адзнаках прадрэнесанснага гуманізму ў Беларусі ў XVI—XVII ст., асабліва калі размова ідзе аб дзейнасці паэта М. Гусоўскага і кнігавыдаўца Скарыны, а таксама прадаўжальнікаў яго друкарскай справы ў Беларусі С. Буднага, В. Цяпінскага і інш.

Адзін з важнейшых праблескаў Рэнесансу — з'яўленне літаратуры на народнай мове, як гэта было ў краінах Заходняй і Цэнтральнай Еўропы, дзе Рэнесанс заўсёды знаменаваў сабой пачатак літаратуры на народнай мове. У Беларусі такая літаратура ўзнікае досыць рана — яшчэ да XVI ст. У XVI—XVII ст. беларуская мова з'яўляецца дзяржаўнай у Вялікім княстве Літоўскім і робіцца літаратурнай мовай адукаваных людзей, якія аднačасова валодалі і лацінскай (і, дарэчы, польскай). Аналагічнае становішча назіраецца ва ўсіх краінах заходнееўрапейскага Рэнесансу: яго дзеячы, буйнейшыя пісьменнікі ўжо тварылі на роднай мове, хоць адначасова валодалі і лацінскай. Нават многія з іх на лацінскай мове пачыналі сваю літаратурную дзейнасць, а потым пера-

ходзілі на родную. Такім быў, напрыклад, адзін з першых вялікіх паэтаў італьянскага Адраджэння Франчэска Петрарка.

Самым раннім павевам гуманізму ў Беларусі, відаць, трэба лічыць факт з'яўлення ў чытачоў цікавасці да сярэдневяковых свецкіх аповесцей заходнееўрапейскага паходжання, якія пашыраліся ў нас у перакладзе на тагачасную беларускую мову. Так, у XV ст. з'яўляюцца спіскі перакладу «Александрыі», к пачатку XVI ст. шырока распаўсюджваліся на тэрыторыі Беларусі і Украіны «Аповесць аб Троі», а потым і пераклады іншых аповесцей, змешчаных у дайшоўшым да нас так званым Пазнанскім рукапісным зборніку XVI ст. Не выпадкова у адной са сваіх прадмоў Скарына ўпамінае аповесці — «Александрыю» і «Трою», якія да гэтага часу ўжо бытавалі ў перакладзе на тагачасную беларускую мову. Варта прыгадаць, што пераклады свецкіх аповесцей, змешчаных у Пазнанскім зборніку, зроблены на беларускую мову з сербскай. Сербія ж да гэтага часу ўжо ўцягвалася ў культуру Адраджэння, адчувала яе жыватворны ўплыў. Ды і беларускія чытачы ў сваёй цікавасці да перакладных свецкіх аповесцей, відаць, ужо не задавальняліся чытаннем пераважна рэлігійных кніг. Не будзе памылкай сцвердзіць, што пераклады заходнееўрапейскіх аповесцей былі выкліканы цікавасцю нашых пісьменных людзей да свецкай літаратуры, пазбаўленай хрысціянскай міфалогіі і царкоўна-рэлігійнай схаластыкі.

Такім чынам, у канцы XV—XVI ст. у Беларусі, у час, на які прыпадае жыццё і дзейнасць Скарыны, была ў наяўнасці адна з важнейшых адзнак культуры Рэнесансу — з'яўленне свецкай літаратуры на роднай мове, фарміраванне літаратурнай мовы і беларускай народнасці. У XVI—XVII ст. літаратура на нацыянальнай беларускай мове дасягае досыць значнага развіцця.

У другой палавіне XVI—XVII ст. гуманістычныя ідэі ў Беларусі ўжо мелі значны ўплыў на развіццё грамад-

скай думкі, літаратуры. Моцны штуршок гэтаму далі кнігавыдавецкая дзейнасць Скарыны, а таксама асветніцкія ідэі, якія ён выказваў у прадмовах і пасляслоўях да сваіх кніг. Такім чынам, літаратурная (прадмовы і пасляслоўі) і выдавецкая дзейнасць Скарыны была ўжо пачаткам пашырэння ў Беларусі ідэй гуманізму, якія і ўцягвалі яе ў агульнаеўрапейскі культурны рух эпохі Рэнесансу. Дзейиасць жа Скарыны паставіла яго ў адзін шэраг з буйнейшымі вучонымі-ıуманістамі Заходняй і Цэнтральнай Еўропы як тыповага дзеяча эпохі Адраджэння. Гэта быў чалавек выключна высокай эрудыцыі і адаронасці ў многіх галінах ведаў, надзвычай шырокіх навуковых інтарэсаў (медыцына, батаніка, філасофія, філалогія, выяўленчае мастацтва), які валодаў многімі мовамі — чэшскай, польскай, літоўскай, лацінскай, грэчаскай, старажытнаяўрэйскай, італьянскай. Веданне Скарынам моў відаць не толькі з таго факта, што ён рабіў пераклады кніг «Бібліі», але і з тэкстаў яго прадмоў. Так, у прадмове «в Притчи премудраго Соломона» чытатаем: «Прнтчи же нарецаются еврейскым языком масшлоф, а греческым — параболе, по латыне же — провербия, а но-рускы и — прнтчн или прислович». І адначасова Скарына ўсё ж быў гуманістам іменна Беларусі, зацікаўленым ў пашырэнні асветы і адукацыі ў самых шырокіх слаях яе насельніцтва.

Прадстаўнікамі новага (пасля Скарыны) пакалення дзеячоў беларускай культуры, у прыватнасці, кнігадрукавання, былі С. Будны і В. Цяпінскі. Праўда, ні па размаху кнігавыдавецкай справы, ні па сваёй вучонасці, ні па глыбіні выказванняў яны не могуць ісці ў параўнанне са Скарынай. Гэта яны, відаць, самі добра ўсведамлялі. І ўсё ж прадмовы да іх выданняў сведчаць аб блізкасці ідэй і імкненняў аўтараў да гуманістычных ідэй Скарыны.

Павевы ідэй Рэнесансу ў Беларусі не былі доўгімі. Віною гэтаму феадальна-каталіцкая рэакцыя, якая лю-

тавала тут пасля Люблінскай уніі 1569 г. і асабліва ўзмацнілася з канца XVII і ў XVIII ст. Таму ў творчасці выдатнага драматурга і паэта XVII ст. Сімеона Полацкага магчыма назіраць, бадай, апошнія праявы ідэй, уласцівых літаратуры Рэнесансу.

Якія ж адзнакі рэнесанснага гуманізму мы маем магчымасць назіраць у Беларусі XVI—XVII ст. і, у прыватнасці, у дзейнасці Скарыны?

Ачагамі культуры Адраджэння ў Заходняй Еўропе (асабліва на радзіме гэтай культуры — у Італіі) часта былі двары буйнейшых магнатаў. Пры гэтым, самі феадалы-мецэнаты нярэдка былі высокаадукаванымі людзьмі, знаўцамі і цаніцелямі мастацтва і літаратуры (пры усёй класава-арыстакратычнай абмежаванасці іх ідэалогіі), валодалі вялікімі бібліятэкамі, у якіх нярэдка сустракаліся кнігі заходнееўрапейскіх гуманістаў па розных галінах навукі, а таксама літаратурныя творы. Успомнім, напрыклад, аб тым, што двор ферарскіх герцагаў д'Эстэ быў буйнейшым ачагом культуры і літаратуры італьянскага Адраджэння.

Нельга не адзначыць высокай адукаванасці і культурнасці шэрагу буйнейшых літоўска-беларускіх арыстакратаў Вялікага княства Літоўскага, а таксама Рэчы Паспалітай, у склад якой яно ўвайшло разам з беларускімі землямі пасля Люблінскай уніі. Такім, бясспрэчна, быў канцлер княства Літоўскага Леў Сапега (1557—1633); пад яго рэдакцыяй і яго клопатамі быў выдадзен важнейшы юрыдычны помнік XVI ст. «Літоўскі Статут» (1588). Пры двары Сапегі ў пашане была мастацкая літаратура, складанне вершаў. Тут падвізаўся і пісаў свае вершы беларускі паэт Андрэй Рымша. У Вільні жылі і іншыя беларускія паэты, пісаўшыя свае вершы-прысвячэнні розным літоўска-беларускім магнатам, апекунам кнігавыдавецкай справы. Нельга адмовіць у высокай для свайго часу культуры і адукаванасці князю Канстанціну Астрожскаму (1526—1608), аднаму з апекуноў кнігадру-

кавання ў Заходняй Русі. Рэзідэнцыя К. Астрожскага ў XVI—XVII ст. была адным з цэнтраў адукаванасці і кнігадрукавання ў Беларусі і на Украіне. Яго клопатамі было адкрыта нямала школ у Заходняй Русі. К. Астрожскі і Л. Сапега былі прадстаўнікамі буйнай беларуска-літоўскай арыстакратыі, якія клапаціліся аб захаванні яе класавых прывілеяў і незалежнасці ад Рэчы Паспалітай.

Аб уплывах рэнесанснага гуманізму ў Беларусі гаворыцца ў акадэмічным выданні гісторыі беларускай літаратуры. Тут канстатуецца «прыкметнае развіццё адукацыі ажыўленне духоўнага жыцця і пашырэнне кніжнасці»[54]. Нярэдка маладыя людзі — выхадцы з маёмасных колаў,— атрымаўшы першапачатковую адукацыю на радзіме, накіроўваліся ў заходнееўрапейскія універсітэты за новымі ведамі. «Беларускае адукаванае грамадства праяўляла цікавасць не толькі да багаслоўскіх мысліцеляў Візантыі, Усходу і Еўропы, але і да свецкіх філосафаў, якія выступалі з пазіцый гуманізму, хоць у школах іх не вывучалі. Вядома, што гуманіст Дэустэрвальт у Вільні прапагандаваў творы Авідзія Назона, Салюсція, Цыцэрона, а таксама буколікі Вергілія. У канцы XV ст. на беларускай мове можна было прачытаць вядомы твор арабскіх філосафаў XI ст. «Арыстоцелевы врата» з устаўкамі з твораў Майманіда»[55].

Дзейнасць Скарыны адбывалася якраз у той час, калі польскія свецкія і духоўныя феадалы рыхтавалі палітычнае падпарадкаванне польскай дзяржаве Вялікага княства Літоўскага разам з беларускімі і ўкраінскімі землямі, якія ў яго ўваходзілі. Пазней было ажыццёўлена гэтае падпарадкаванне: у выніку Люблінскай уніі ўся велізарная тэрыторыя Вялікага княства Літоўскага была аб'яднана з Польшчай пад уладай польскага караля. Пачынаецца настойлівая і энергічная паланізацыя беларускага і ўкраінскага насельніцтва шляхам пераводу яго ў каталіцкую рэлігію.

Перад пісьменнікамі Беларусі ў канцы XVI, у XVII і XVIII ст. стаяла выключнай важнасці нацыянальная задача барацьбы супраць польска-каталіцкіх унлываў і феадальнай рэакцыі. Вялася яна пры дапамозе рэлігійнай палемічнай публіцыстыкі, якая і была ў той час адным з надзённых жанраў літаратуры. Магчыма, гэта і было прычынай таго, што людзі, якія валодалі пяром, не мелі (або амаль не мелі) магчымасці прыкласці свае здольнасці да свецкай тэматыкі. У гэты самы час прадстаўнікі пануючага класа ў Беларусі і верхавіна праваслаўнага духавенства ў сваёй большасці адмовіліся ад беларускай мовы і роднай культуры.

Характарызуючы дзеячоў эпохі Адраджэння, Ф. Энгельс пісаў: «Тады не было амаль ніводнага буйнага чалавека, які не зрабіў бы далёкіх падарожжаў, не гаварыў бы на чатырох або пяці мовах... Але што асабліва характэрна для іх, дык гэта тое, што яны амаль усе жывуць у самай гушчы інтарэсаў свайго часу, прымаюць жывы ўдзел у практычнай барацьбе, становяцца на бок той ці іншай партыі і змагаюцца хто словам і пяром, хто мячом, а хто і тым і іншым разам. Адсюль тая паўната і сіла характару, якія робяць іх цэльнымі людзьмі. Кабінетныя вучоныя з'яўляліся тады выключэннем; гэта або людзі другога і трэцяга рангу, або разважлівыя філістэры, якія не жадаюць абпаліць сабе пальцы»[56].

Так, сапраўды многім дзеячам заходнееўрапейскага гуманізму даводзілася шмат падарожнічаць, мяняць месца свайго жыхарства і дзейнасці. Прыгадаем, напрыклад, вялікага Петрарку. У сувязі з гэтым знамянальным здаецца і той факт, што і беларускаму гуманісту Скарыне давялося нямала падарожнічаць па гарадах і краінах Еўропы: Полацк — Кракаў — Падуя — Прага — Вільня — Кенігсберг — зноў Вільня — і зноў Прага.

Як і іншыя буйнейшыя дзеячы Адраджэння, Скарына сапраўды жыў «у самай гушчы інтарэсаў свайго часу». У нас няма зараз магчымасці дакументальна давесці аб

тым, што Скарына прымаў удзел у грамадскай барацьбе яго часу, але дзейнасць асветніка-гуманіста зрабіла несумненны і пры тым неацанімы ўклад у справу барацьбы сіл прагрэсу і культуры супраць рэакцыі і цемрашальства, барацьбы, якая моцна распальвалася ў гады асветніцкай дзейнасці выдатнага сына Белай Русі. Не захавалася дакументаў, якія б сведчылі аб непасрэдным удзеле Скарыны, напрыклад, у дзейнасці Віленскага брацтва. Але не выклікае ніякага сумнення той факт, што для дзейнасці брацтваў у гарадах XVI ст. і пазнейшых часоў праца Скарыны аказала неацанімыя паслугі — вучоны сваім пяром страсна змагаўся за пашырэнне асветы ў родным краі.

Усё жыццё і дзейнасць Францыска Скарыны, выдатнага вучонага, заснавальніка беларускага гуманізму, першадрукара дае магчымасць паставіць яго ў адзін шэраг з найбольш выдатнымі дзеячамі эпохі Рэнесансу ў краінах Заходняй Еўропы і славянскага свету. «Сваёй дзейнасцю ён пракладваў шырокія шляхі для развіцця беларускай нацыянальнай культуры, вучыў любіць родную мову, быў вестуном вялікіх ідэалаў гуманізму на Беларусі» (К. Крапіва)[57].

## ЗАЎВАГІ

[1] М. Багдановіч. Збор твораў, т. 1. Мінск. 1968, с. 67.

[2] Гл., напрыклад, «Краткая литературная энциклопедия», т. 3. М., 1966, с. 610—611.

[3] К. Маркс и Ф. Энгельс о литературе. М., 1958, с. 80.

[4] Там жа.

[5] Там жа.

[6] Там жа.

[7] Там жа, с. 79—80.

[8] С. Александровіч. Па слядах паэтычнай легенды. Мінск, 1965, с. 111—112.

[9] Гл. И. Н. Голенищев-Кутузов. Итальянское Возрожденне н славянские литературы XV—XVI веков. М., 1963, с. 231.

[10] Там жа, с. 235. Пераклад Н. І. Галяніщчава-Кутузава.

[11] Мікола Гусоўскі. Песня пра зубра. Пераклаў з лацінскан мовы Язэп Семяжон. Мінск, 1973, с. 14.

Там жа, с. 40.

[13] Там жа, с. 5.

[14] Там жа, с. 76—77.

[15] И. Н. Голенищев-Кутузов. Итальянское Возрождение.., с. 236.

[16] Гл. Там жа, с. 237.

[17] К. Маркс и Ф. Энгельс. Соч., т. 7, с. 389.

[18] И. Н. Голеннщев-Кутузов. Итальянское Возрождение.., с. 152.

[19] П. В. Владнмнров. Доктор Франциск Скорина, его переводы, печатные нздания и язык. СПб., 1888, с. 35—36.

[20] С. Александровнч. З майго падарожжа.—«Полымя», 1969, № 8, с. 173.

[21] Гл. П. В. Владнмнров. Доктор Франциск Скорина.., с. 46.

[22] С. Александровіч. З майго падарожжа.., с. 175.

[23] Там жа, с. 172..

[24] Там жа.

Там жа, с. 173.

[26] П. В. Владимиров. Доктор Фрапциск Скорина.., с. 35—36.

Е. Ф. Карскнй. Белорусы, т. III, выпуск 2. Пг., 1921, 25.

[28] С. Александровіч. З майго падарожжа.., с. 180.

Там жа, с. 181.

[30] Там жа.

[31] Там жа.

Там жа.

Гл. А. Жураўскі. Як называць Скарыну?—«Звязда», 1967, 11 мая.

[34] И. Н. Голеннщев-Кутузов. Итальянское Возрождение..., с. 230.

Там жа.

[36] С. Александровіч. З майго падарожжа.., с. 179.

[37] Там жа.

[38] Там жа.

Там жа, с. 181.

[40] И. Н. Голенищев-Кутузов. Итальянское Возрождение.., с. 73.

[41] К. Маркс н Ф. Энгельс. Соч., т. 7. М., 1956, 346.

[42] Гл. П. В. Владимиров. Доктор Франциск Скорина.., с. 36.

[43] Францыск Скарына. Прадмовы і паслядоўі. Мінск, 1969, с. 11. У далейшым цытаты са скарынінскіх выданняў даюцца па гэтай кнізе без спецыяльных указанняў.

44 И. Н. Голенищев-Кутузов. Итальянское Возрождение.., с. 231.

45 М. А. Алексютовіч. Светапогляд Ф. Скарыны.— У кн.: 450 год беларускага кнігадрукавання. Мінск, 1968, с. 105.

Аман і Мардахей — біблейскія персанажы. Мардахей — сваяк царыцы Эсфір, Аман — яе фаварыт. Апошні задумаў загубіць Мардахея і для гэтага паставіў шыбеніцу. Але загінуў на ёй сам Аман пасля таго, як быў выкрыты.

47 П. Н. Беркаў. Ф. Скарына і пачатак усходнеславянскага вершаскладання.— У кн.: 450 год беларускага кнігадрукавання, с. 245.

48 П. В. Владимиров. Доктор Франциск Скорина.., с. 35—36.

49 В. Стасов. Отчет о седьмом присуждении наград гр. Уварова. СПб., 1864, с. 32.

50 П. В. Владимиров. Доктор Франциск Скорина.., с. 70.

51 А. Ф. Коршунаў. Знойдзена «Пасхалія».—«Помнікі гісторыі і культуры Беларусі», 1972, № 4, с. 45.

52 Гл. П. В. Владимиров. Доктор Франциск Скорина.., с. 321—322.

53 Там жа, с. 46.

54 Гісторыя дакастрычніцкай беларускай літаратуры ў двух тамах, т. 1. Мінск, 1968, с. 152.

55 Там жа.

К. Маркс и Ф. Энгельс о литературе, с. 80, 81.

57 Эстафета памяці і любві. «Літаратура і мастацтва», 1966, 25 лістапада.